PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 44 (1955) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 31 КАСТРЫЧНІКА 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## НАША РОДНАЯ МОВА

Вераснёўскай раніцай еду я ў школу на Гайнаўшчыне. Ад знаёмых ведаю, што яшчэ навучаюць там беларускую мову. Па дарозе бяру ў машыну дзве дзяўчынкі. Данка і Ёля вучацца ў трэцім класе. Найбольш любяць рэлігію. Размаўляюць са мною на мясцовым дыялекце. На дзіцячых тварыках зацікаўленне і трывога. Нарэшце бягуць да аднакласнікаў. Па хвіліне ўсе паўтараюць: „Прыехала пані з „Нівы"!"

### ЗАКЛАПОЧАНАЯ ДЫРЭКТАР

гаворыць, што нічога не ведала аб маім прыездзе.

— Такія сустрэчы трэба дамаўляць раней. Вы з „Нівы", так? — пытаецца, каб пацвердзіць свае домыслы.

— Не, не, — пярэчу і расказваю фантастычную версію. Кажу, што прыехала я з Варшавы і збіраю матэрыял пра беларускае школьніцтва да сваёй кніжкі. Цікавіць мяне, як выглядае навучанне беларускай мовы на практыцы. Здзіўленне, недавер, непрыступнасць, клапатлівая калькуляцыя. Па жорсткай хвілінцы дамаўляемся сустрэцца праз гадзіну. Усё на добрай дарозе. За гэты час яназіраю спакойнае

### ЖЫЦЦЁ ВЁСКІ.

Якраз ідзе капанне бульбы. Сяляне спяшаюцца ў поле. У магазіне двух недапітых маладзёцаў дамагаецца „піўца на крэску". Бойкая прадаўшчыца пасылае іх то „ў п..." то „на поле". Хлопцы выглядаюць на такіх, якія ўжо накапаліся. Вяртаюся ў

### НАСТАЎНІЦКІ ПАКОЙ.

Пры шчыльна закрытых вокнах бязлітасна бушуюць дымныя аблокі з цяжкіх папяросаў. Частуюць мяне кавай. Перад вачыма віднеецца лозунг „Każdy nauczyciel jest nauczycielem języka polskiego". „Гэта значыць, — паясняе мне маладая настаўніца, — што кожны з нас зважае на арфаграфію". Беларускай мове вучаць аж тры настаўнікі: пан Дарак, пані К. і пані Аля Ц. Узялі яны гэтыя заняткі, каб назбіраць 18 гадзін да поўнага штату. Апрача гэтага вучаць яны амаль усіх прадметаў. Толькі рэлігія належыць самому катэхету, які мае таксама 18 гадзін.

У школе ніколі не было беларусіста. Два гады таму вучыла яшчэ выпускніца

☞ Працяг на стар. 5



*Лебядзіная песня.* **Фота з архіва.**

## ДЭМАКРАТЫЯ ТЫ НАША ГМІННАЯ...

7 кастрычніка гэтага года адбылася ў Гарадку сесія гміннай рады. Разглядаўся на ёй, між іншым, шырокі дыяпазон спраў звязаных з вуліцамі ў Гарадку -- ад прасцілання асфальту на іх да змены назваў. Радны Лявон Тарасэвіч ставіў пытанне перайменавання цэнтральнай вуліцы Гарадка на вуліцу Хадкевічаў, бо якраз з прозвішчамі Аляксандра і Рыгора Хадкевічаў звязаная гісторыя Гарадка і яго залаты ў гісторыі век. Цяпер гэтая вуліца, у залежнасці ад адрэзка, завецца Беластоцкай або Свярчэўскага. Прапанова Л. Тарасэвіча заключалася ў тым, каб назву Беластоцкая змяніць толькі ў старой гістарычнай частцы Гарадка, у новым жа квартале хай застаецца як было. У дыскусіі, якая ўзнікла сярод гарадоцкіх радных выявілася, што прапанаваны Л. Тарасэвічам крок прынясе для Гарадка адны ўскладненні -- людзі будуць прымушаны "змяніць" свае адрасы, дамы трэба будзе перанумараваць і г. д. Што дрэннага ў назве "Беластоцкая?" -- падалі галасы. Гэтая ж вуліца на самай справе вядзе ў Беласток, дык ці не можа гэтак застацца і надалей? Л. Тарасэвіч не пярэчыў, што вуліца фактычна вядзе ў Беласток, але хай жа, гаварыў, яна сабе вядзе ад Гарадка да Беластока, а тое, як мае звацца ў самім Гарадку -- гэта ўжо наша, радных, справа. Ці можна сабе сёння, гаварыў Л. Тарасэвіч, уявіць Варшаву без калоны Жыгімонта III, а Беласток без вуліцы Браніцкіх? Якая перашкода, каб і Гарадку вярнуць яго гістарычныя постаці? Ці не час ужо, каб пачалі мы ўшаноўваць сваё мінулае, а гэтым самым і саміх сябе? Гарадок з Хадкевічамі функцыянаваў ужо ў XVI стагоддзі, у той час як Беласток быў усяго сялібай Браніцкіх. Супроць прапановы раднага Тарасэвіча знайшоўся і такі аргумент, быццам бы змена назваў вуліц будзе прычынай радыкалізацыі настрояў у Гарадку. Як неафіцыйна мы даведаліся, найбольш засцярог наконт прапанаваных змен выказваюць у Гарадку людзі, якія кандыдавалі ў гмінную раду, але ў яе не трапілі.

Справа вуліцы Хадкевічаў у Гарадку знайшла свой кампраміс у галасаванні. Адзін голас пераважыў, каб перайменаваць вуліцу Свярчэўскага на Хадкевічаў -- Беластоцкая застаецца як была. Што ж, Хадкевічы ў Гарадок нібыта вярнуліся, але вяртанне гэтае з гістарычным сэнсам размінулася -- сцвердзіў Лявон Тарасэвіч.

Іншая прапанова датычыла ўшанавання асобы Сцяпана Пятэльскага, які нарадзіўся каля 1890 года ў Гарадку менавіта і побач Янкі Купалы і Якуба Коласа быў сярод пачынальнікаў маладой беларускай паэзіі. Паэтычныя

☞ Працяг на стар. 3

## СВЯТЫЯ ДЗЯДЫ, ПРЫХОДЗЬЦЕ СЮДЫ...



*Крыжы ў вёсцы Сушча.*
**Фота А. Вярбіцкага**

Культ продкаў — гэта рэлігійнае шанаванне памерлых бацькоў і ўсіх родзічаў.

Усе памінкі па нябожчыках, якія агульна адзначаліся ў народзе па пэўных днях і ў якіх яскрава ўвасобіўся не толькі перажытак культу продкаў, але і выразны гуманістычны дух нашага народа, аб'ядноўваюцца ў вельмі змястоўным паняцці „дзяды". Пад „дзядамі" народ разумеў таксама ўсіх мёртвых продкаў ці іх душы незалежна ад полу, узросту. У продках народ бачыў свае жыццёвыя карані. Таму з такой стараннасцю дбаў ён пра падрыхтоўку да „дзядоў", абмяжоўваючы сябе ў штодзённым побыце і адкладваючы ўсё лепшае „на прыход продкаў", таму з такой глыбокай пашанай праводзіў гэты абрад, прызнаючы яго нароўні з нядзельнымі і святочнымі днямі. Гэта светлая рыса беларуса была адзначана яшчэ ў мінулым стагоддзі.

Звычай „дзядоў" паходзіць ад славянскай трызны — памінальнай трапезы. Трызна — гэта, шырэй кажучы, пахавальны абрад у старажытных народаў. Першапачаткова складалася яна з ахвярапрынашэнняў, ваенных турніраў і песень у гонар памерлага, а таксама памінальнага частавання напярэдадні і пасля пахавання. Трызна звычайна адбывалася пры насыпанні кургана як урачыстае развітанне з нябожчыкам у выглядзе спаборніцтва ці гульні. У славянскай трызне, як і ў антычным пахавальным цырыманіяле, галоўнае месца належала конным турнірам. Да нашых дзён дайшоў звычай частаваць тых, хто прыйшоў на пахаванне, а таксама пакідаць невялікую колькасць ежы і пітва для нябожчыка (духа продка). Часам тэрмін „трызна" выкарыстоўваецца як сінонім памінак.

Святкаванне „дзядоў", як аднаго з памінальных абрадаў, лічылася неабходнасцю. Побач з пашанай прысутнічаў страх, што пакрыўджаныя няўвагай нябожчыкі не будуць дапамагаць жывым: „Хто дзядоў не ўважае, таму ўсяляк бывае"; „Нельга пазбягаць дзядоў, бо раз не адзначыў — і скаціна здохла". Тут і цёплыя ўспаміны пра нядаўна памерлых: „Дзядам трэба ўсяляк спагадаць, бо яны святыя госці з таго свету". Тут і перасцярога, што душа будзе пакутаваць, калі яе не памянуць, як належыць і вялікі грэх перад Богам за знявагу мёртвых.

„Дзяды" — абрад своеасаблівы. Вера ў тое, што ў гэты дзень душы продкаў спускаюцца на зямлю, каб пагладзець, як іх ушаноўваюць, як нашчадкі валодаюць спадчынай, вымагала ад людзей строгіх паводзін. Памінальны характар свята не дапускаў ніякіх забаў, гульняў, скокаў ці спеваў. Атмасфера панавала сумная і строгая.

Памінальныя дні маюць розныя рысы і час у праваслаўных і католікаў. Каталіцкая царква выдзеліла адзіныя штогадовыя памінкі — Дзень Усіх Святых і Задушкі (1 і 2 лістапада). Праваслаўны каляндар вызначае ў якасці памінальных дзён некалькі дат, сярод якіх вылучаюцца: мясапусная субота напярэдадні Велікоднага Посту, Радаўніца, траецкая субота і змітроўская субота.

Асноўныя дні агульных памінак звычайна падзяляюцца на зімовыя (масляныя), веснавыя (радаўніца, велікодныя), летнія (траецкія) і восеньскія

☞ Працяг на стар. 8

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Kieliszek zimnej, gorzkawej wódki, pitej powoli, małymi łykami, sprzyja odprężeniu i rozjaśnia myśli.*

*Kiedy doskwiera upał i człowiek czuje się znużony, dobrym środkiem odnawiającym energię jest szkocka whisky nalana do szklaneczki z lodem.*

*Picie koniaku reguluje i stymuluje pracę serca.*

*Picie wina to swoista przyjemność, którą celebruje się w gronie najbliższych...*

*(Rzeczpospolita — Magazyn, nr 11)*

**Мы ніколі не думалі інакш, толькі не асмеліліся гэтага напісаць, каб нашы сябры не абвінавацілі нас у прапагандаванні алкагалізму.**

* * *

*Kultura fizyczna jest niedoceniona* — **сказаў сенатар Ян Муляк, выбраны беларускім электаратам са спіска СЛД.**

*(Gazeta Współczesna, nr 194).*

* * *

***У Гародні створана філія г. зв. афіцэрскага саюзу. Апроч лічаных пашпартных беларусаў гэтая арганізацыя гуртуе афіцэраў-расейцаў. І хоць яны заяўлялі, што кіруюцца ў сваёй дзейнасці беларускай канстытуцыяй і не займаюцца палітыкай, на з'ездзе ў Менску запатрабавалі скінуць Шушкевіча і аднавіць Савецкі Саюз.***

***(Пагоня, 24.09 — 7.10.1993)***

**Вось, Беларусь — гэта сапраўды дэмакратычная краіна, нават пятая калона мае тут свае палітычныя патрабаванні.**

* * *

*Do 31 grudnia 1993 r. trwać będzie weryfikacja legitymcji kombatantów, którzy uprawnienia zdobyli za utrwalanie władzy ludowej.(...) Ci, którzy mają w aktach jedynie utrwalanie władzy ludowej, należeli do MO, UB, SB, będą pozbawieni kombatanckich uprawnień. W lepszej sytuacji są ci, którzy... działali w AK.*

*(Gazeta Współczesna, nr 194)*

**Не будзе ветэранаў сярод беларусаў.**

* * *

*Kiedy nastała ponura noc okupacji hitlerowskiej, ojciec był w Batalionach Chłopskich. Ukrywał także Żydów. Ukrywał ich tak starannie, że do tej pory nie można znaleźć.*

*(Polityka, nr 41)*

**Такая біяграфія — найбольш дапаможная ў кар'еры кожнага разважнага чалавека пасля 19 верасня ў Польшчы — заяўляе „Палітыка".**

* * *

***Сябры палякі! Вас абражае назва вуліцы 17 Верасня. Але не трэба быць эгаістамі. У сваіх адвечных спрэчках з расейцамі вы забыліся пра нас, беларусаў. Вы падзялілі ў 20-тым годзе з расейцамі Беларусь надвая, не спытаўшы ў нас і не беларускае войска ўступіла 17-га верасня на тэрыторыю Заходняй Беларусі. Польшча спазнала тое, што спазнала Беларусь у дзень Рыжскага замірэння.***

***(Пагоня, 24.09.—7.10.1993)***

* * *

*Tylko kilka innych ważkich wydarzeń sprawiło, że w Białostockiem nie zawrzało po ogłoszeniu decyzji o przydziale kompleksu pounickiego w Supraślu Kościołowi prawosławnemu.*

*(Kurier Podlaski, nr 194)*

**Так піша пан пасол Адам Чэслаў Дабраньскі, выбраны са спіска ПСЛ. На гэты спісак галасавалі некалькі тысяч праваслаўных членаў гэтай сялянскай партыі. Беларускія і праваслаўныя інтарэсы ў новым парламенце будуць, як відаць, някепска забяспечаны. Янэк Муляк, Влодэк, Метэк Пецка, Адам Чэслаў... Клас!!!**

* * *

*U nas mówią, że lepiej mieć w chałupie dwóch rencistów, niż w oborze dwa wolce. Z rencistów pieniądze są co miesiąc, z wolców raz w roku. A i wolce jedzą więcej... Nina ma 6 krów. — Może po wyborach będzie lepiej — mówi i śmiejąc się dodaje, że ludzie na wsi chcą, żeby było tak jak w latach siedemdziesiątych i osiemdziesiątych. Mieszkańcy Eliaszuk potwierdzająco kiwają głowami. Nina mówi, że im białoruski poseł nie jest potrzebny.*

*(Gazeta Współczesna, nr 196)*

**У 70-х гадах амаль усе Ніны пераехалі з вёсак у Беласток і пераўтварыліся ў Яніны. Ніна з Ляшукоў пераехаць не паспела. І сапраўды, што можа ёй даць беларускі пасол — ніякай гарантыі, што калі-небудзь і яна можа стаць Янінай.**

* * *

*Delegacja byłych żołnierzy I Dywizji Piechoty im. Tadeusza Kościuszki uczestnicząca w uroczystościach pod Lenino powróciła z Rosji.*

*(Kurier Poranny, nr 199)*

**Паводле нашых інфармацыяў, Леніна ўсё яшчэ знаходзіцца ў межах Рэспублікі Беларусь. Але адкуль журналісту „Кур'ера" ведаць пра існаванне Беларусі, калі яго вучылі, што ёсць толькі Расія.**

* * *

*W centrum Moskwy umieszczono czarną tablicę dla uczczenia pamięci dwóch młodych mafiosów zabitych podczas strzelaniny między dwiema przeciwnymi bandami. Mimo licznych protestów ze strony mieszkańców, nikt nie zamierza jej tknąć. W Moskwie jest obecnie 150 syndykatów zbrodni podzielonych wewnętrznie na 3000 gangów. Moskwa obecnie jest podobna do Nowego Jorku z lat 1920-1930.*

*(Rzeczpospolita, nr 235)*

**Гэтым горадам найчасцей кіравала нейкая мафія, толькі па-рознаму яе называлі. Мемарыяльныя дошкі... — што тут новага? Неўзабаве паэты пачнуць пісаць вершы пра загінуўшых змагароў за рыначную эканоміку. Кожная эпоха нараджае сваіх герояў.**

* * *

*Загінуў наш Прыяцель Дзмітрый Канстанцінавіч Арцыменя.*

*(Przegląd Prawosławny, nr 10)*

# З мінулага тыдня

**У Менску ўрачыста адзначалася 50 гадавіна ліквідацыі гета.** Падчас праведзенай у 1943 годзе акцыі знішчэння гета загінула каля 100 тысяч яўрэяў. „Прыйшоў ужо час, каб сказаць праўду, што гета ў Менску — гэта вялікі сімвал генацыду ярэяў, такі, як Бабі Яр ці гета ў Варшаве" — сказаў міністр замежных спраў РБ **Пётр Краўчанка**. Цяпер у Беларусі жыве 120 тысяч яўрэяў, да вайны — 400 тысяч.

**„Нават калі я і не буду балаціравацца** (у прэзідэнцкіх выбарах), то зусім магчыма, што аднаўлю сваю палітычную дзейнасць" — сказаў **Міхаіл Гарбачоў** у інтэрв'ю для нямецкага друку. Прэзідэнт былога СССР пакрытыкаваў Ельцына за закрыццё некалькіх апазіцыйных у адносінах да прэзідэнта Расіі газет.

**Нямецкі бізнесмен з Калоніі Пал Беркавіч** хоча купіць набальзаміраванае цела **Леніна**, каб выставіць яго ў адным з мясцовых музеяў, а потым паказваць па ўсім свеце. Беркавіч запрапанаваў расейскім уладам мільён марак (625 тыс. дол. ЗША) за мумію Леніна.

**Улады Беластока** ад некалькіх гадоў супрацоўнічаюць з уладамі галандскага горада **Эйндхавен**. Нядаўна наш горад наведала галандская дэлегацыя. Члены гэтай дэлегацыі **Вітске Туінстра і Кес Фольватэр** наведалі нашу рэдакцыю. Госці цікавіліся праблемамі беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне.

**Першы сельскагаспадарча-прадуктовы кірмаш**, арганізаваны Прамыслова-гандлёвай палатай і фірмай ІТО адбыўся ў Беластоку. На кірмашы можна было паглядзець і купіць сельскагаспадарчыя машыны, абсталяванні для перапрацоўкі сельскагаспадарчых прадуктаў, тэхналогіі і гатовыя прадукты. Можна было таксама заключыць дамовы аб супрацоўніцтве і гандлёвыя кантракты. Апрача польскіх фірм у кімашы прымалі ўдзел прадпрымальнікі з **Беларусі, Літвы і Латвіі.**

**У Беластоку адбыўся II Міжнародны песенны фестываль „Беластоцкія мальвы'93".** Першы прыз у конкурсе дэбютаў — „Белую мальву" — заваявала **Інес Зачэк** з Варшавы. Згаданы фестываль праводзіцца з мэтай прапагандаваць маладыя таленты. Удзельнікаў конкурсу вылучыла спецыяльная камісія Саюза аўтараў і кампазітараў ЗАКР. Першы фестываль праходзіў у 1991 годзе.

**Беластоцкае прадпрыемства баваўнянай прамысловасці „Фасты"** адзначала саракагоддзе свайго існавання. З гэтай нагоды адбылася ўрачыстасць, падчас якой беластоцкі віцэ-ваявода **Аляксандр Усакевіч** уручыў 30 работнікам адзнакі „Заслужаны Беласточчыне". Цяпер у прадпрыемстве працуе 3200 чалавек, пераважна жанчын, якія вырабляюць разнародныя тканіны. Частка прадукцыі высылаецца на экспарт, між іншым, у Вялікабрытанію.

**У Бельску-Падляшскім была спынена сесія Гарадской рады.** Былы намеснік старшыні Гарадской рады паставіў беларускім радным закід, быццам тыя праводзяць антыпольскую дзейнасць, а двух радных назваў „палякаедамі". Радныя ад Беларускага выбарчага камітэта ў знак пратэсту пакінулі залу пасяджэнняў і ў выніку, з браку кворуму, немагчыма было працягваць працу сесіі ***(шырэй пра сесію напішам у наступным нумары)***.

**Амаль сто ікон** адабралі ўжо ў кантрабандыстаў у гэтым годзе шчэцінскія мытнікі. Іконы мелі быць вывезены на Захад, галоўным чынам у Нямеччыну, Бельгію, Францыю, Галандыю і ў Скандынавію. Былі спробы пераправіць кантрабандай старую мэблю, старадаўні гадзіннік, крыштальныя люстры, а нават брычку.

**Падаражэлі чыгуначныя білеты.** Падарожжа з Беластока ў Варшаву скорым цягнікам у вагоне II класа каштуе цяпер 94 500 зл. (на 12 600 зл. больш).

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Скандальнае пасяджэнне Гарадской рады ў Бельску.
- Пра Праневічы ў XIX стагоддзі і пра Храбалы сённяшняга дня.
- Каму залежыць на канфліктах на Беласточчыне.
- Журналісты "Нівы" былі ў школах, дзе навучаецца беларуская мова.



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

## ХОЧАШ СТВАРЫЦЬ ПАРТЫЮ -- ПЛАЦІ

На днях Міністэрства фінансаў усталявала новыя тарыфы за дзяржаўную рэгістрацыю грамадскіх аб'яднанняў. Цікава, што ўрад і тут няроўна дзеліць: калі звычайная грамадская арганізацыя павінна раскашэліцца на 8 мінімальных заработных плат (120 тысяч рублёў), дык палітычная -- на 10 (150 тысяч рублёў). Змяненні і папаўненні, якія ўносяцца ў іх статуты, патрабуюць яшчэ 30 працэнтаў адпаведна ад указаных вышэй сум. Але больш за ўсіх не шанцуе міжнародным грамадскім арганізацыям: палова аплаты здзяйсняецца ў замежнай валюце.

## ДЗЕ БЫЛІ БЕЛАРУСКІЯ КАМУНІСТЫ 3-4 КАСТРЫЧНІКА?

Члены Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі вельмі занепакоены дзейнасцю на тэрыторыі рэспублікі так званага Саюза афіцэраў -- пракамуністычнай арганізацыі. Імі накіраваны адкрыты ліст да Генеральнага пракурора РБ Васіля Шаладонава. Дзеянні гэтай арганізацыі, па меркаванню НДПБ, супярэчаць развіццю нацыянальнага адраджэння і нават накіраваны на знішчэнне незалежнасці Беларусі, носяць зняважлівы характар у адносінах да беларускага народа, яго мовы і гісторыі, такім чынам з'яўляюцца процізаконнымі.

Магчыма, гэты запыт і з'явіўся штуршком для пракуратуры Беларусі, якая накіравала ў пракуратуру Расейскай Федэрацыі ліст з просьбай паведаміць аб удзеле ў маскоўскіх падзеях 3-4 кастрычніка беларускіх грамадскіх і палітычных арганізацый і грамадзян рэспублікі. Да таго ж, пракуратурай РБ праводзіцца праверка законнасці дзейнасці некаторых грамадскіх арганізацый, у прыватнасці, Саюза афіцэраў і Народнага руху Беларусі (не блытаць з Беларускім народным фронтам).

## АХВЯРЫ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ Ў МАСКВЕ

Падчас крывавых падзей у Маскве загінула і некалькі грамадзян Рэспублікі Беларусь. Адзін з іх -- генеральны дырэктар асацыяцыі "МОКА" Сяргей Мокін, які загінуў ад шалёнай кулі. Другі -- "актывіст левых патрыятычных сіл", абаронца Белага дома палкоўнік Ключнікаў. Адметна, што на пахаванні апошняга разгорнуты спачатку камандай салдат для аддачы воінскіх ушанаванняў дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг па патрабаванню арганізатараў пахавання быў заменены чырвоным. Над труной шмат і гнеўна гаварылі пра "ельцынскіх забойцаў", кляліся абараніць Савецкую ўладу, аднавіць Саюз.

## ІНТЭРПОЛ ЗОЙМЕЦЦА КРЫЖАМ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

Беларускі ўрад звярнуўся да Інтэрпола з просьбай аказаць садзейнічанне ў пошуках нацыянальнай рэліквіі беларусаў -- бясцэннага сярэдневяковага крыжа Ефрасінні Полацкай, упрыгожанага каштоўнымі камянямі. Крыж знік бясследна ў 1941 годзе. Урад лічыць, што яго ўкралі немцы, а потым прадалі праз аўкцыён "загадкаваму мільянеру". Мяркуецца, што зараз ён знаходзіцца ў Злучаных Штатах.

## БУДЗЕМ З ГІМНАМ?

11 кастрычніка журы конкурсу на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь прыйшло да высновы, што ніводзін з прапанаваных твораў пераканаўчай падтрымкі ў водгуках грамадскасці не атрымаў. І тады было вырашана прыняць за тэкстуальную аснову гімна вядомы верш Янкі Купалы "Маладая Беларусь". Прызнаючы выдатнымі радкі вялікага беларускага песняра, нельга не адзначыць усё ж, што знянацку ці наўмысна сярод прапанаваных быў абраны самы нейтральны варыянт тэксту.

## БАНКІР -- ПРАФЕСІЯ НЕБЯСПЕЧНАЯ

Фінансавая дзейнасць на Беларусі апошнім часам становіцца самай небяспечнай. Не дзіўна, бо ў камерцыйных банках "адмываецца" шмат грошай, здабытых незаконным шляхам. Чарговай ахвярай неабвешчанай мафіёзнай вайны стаў Юрый Балбекаў, начальнік упраўлення гандлёвых аперацый акцыянернага камерцыйнага банка "Приорбанк", якому не было і 30 гадоў. Чым заслужыў Балбекаў 12 куль злачынцаў? Існуюць розныя версіі, але хутчэй за ўсё -- гэта помста мафіёзных груповак.

## ШТОСЬЦІ З ПАМЯЦЦЮ ЎРАДА СТАЛА

Вось ужо пяць гадоў марна чакаюць жыхары Беларусі, калі па рашэнню Савета Міністраў у лясным масіве "Курапаты" будзе нарэшце ўзведзены помнік ахвярам масавых рэпрэсій. "Свядомым сабатажам" лічыць правядзенне бясконцага конкурсу адзін з прадстаўнікоў журы пісьменнік Васіль Быкаў. Такі лёс напаткаў і помнік Францыску Скарыне ў Менску, Сімяону Полацкаму ў Полацку, Кірылу Тураўскаму ў Тураве, Васілю Вашчылу ў Крычаве, Кастусю Каліноўскаму і Максіму Багдановічу ў Гародні, Францішку Багушэвічу ў Смаргоні... Пасля трох гадоў абвяшчэння незалежнай дзяржавы на Беларусі не з'явілася ніводнага мастацкага таму сведчання. Затое па-ранейшаму стаіць звыш 400 помнікаў Леніну, а над будынкам урада вісіць герб БССР.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ПАНАРАМА НАРАЎСКАЙ ГМІНЫ

## 2

### ЗЯМЛЯ ГАВОРЫЦЬ АБ МІНУЛЫМ

У натуральным пейзажы Нараўскай гміны можна заўважыць шмат элементаў, якія ў сапраўднасці не з'яўляюцца творам прыроды, а слядамі дзейнасці чалавека ў мінулым. На першы погляд іх цяжка нават заўважыць. Невялікія ўзгоркі, паўкруглыя земляныя валы, кулапападобныя копчыкі, парослыя травой, звалы вялікага камення — гэта малавідочныя ў сваёй сённяшняй форме месцы, дзе ў далёкім мінулым людзі жылі, працавалі, узносілі ахоўныя канструкцыі, хавалі сваіх памерлых.

Вось прыклады двух помнікаў мінулага. Першы знаходзіцца каля вёскі Ласінка, ля вясковых могілак. Гэта вялікі курган на могілках з плоскімі магіламі рымскага перыяду (III-IV ст.ст.). Адносіцца ён да тыпу княжацкіх магіл і разам з акружаючай яго плошчай залічаны да помнікаў значнейшай важнасці.

Другі помнік — больш дзесятка курганоў — знаходзіцца ў лесе па абодвух баках дарогі з Нарвы ў Ваські. Яны рознай велічыні, найбольшы — каля пятнаццаці метраў. Форма, сляды раўкоў вакол сведчаць аб тым, што гэта могілкі перыяду ранняга сярэдневякоўя (X-XII ст.ст.).

### ГЛЕБЫ

Глебы тут вельмі разнастайныя. Найчасцей падсцілаючымі пародамі з'яўляюцца марэнныя гліны, суглінкі, сартаваныя пяскі. Сфарміраваныя на глінах і суглінках моцна— і сярэднепадзолістыя глебы займаюць паўднёвую частку гміны. Выступаюць яны, між іншым, каля вёскі Ласінка і Тынявічы Вялікія, але таксама і на невялікіх участках у вёсках Сацы, Трасцянка і іншых. Яны камкаватыя, добра захоўваюць вільгаць і лічацца ўрадлівымі глебамі.

Другім відам з'яўляюцца слабападзолістыя глебы. Яны сфарміраваліся на пясках і жвірах. Глебы гэтыя кампактна выступаюць у Нараўскай, Ванеўскай, Яноўскай і Васькоўскай акругах.

Асаблівай разнастайнасцю адзначаюцца глебы ў наваколлі Ласінкі і Трасцянкі. На плошчы ў некалькі гектараў сустракаюцца тут самыя розныя глебы дзярновага і іншых тыпаў.

Па далінах рэк выступаюць поймавыя глебы. Таўшчыня рачных адкладаў, на якіх яны развіліся, у даліне ракі Нарвы дасягае 1,5 метра, на рацэ Нараўцы 0,5-0,8 м, у далінах меншых рэчак — да 0,5 метра. Гэтыя рачныя адклады маюць цёмна-шэры колер, вельмі многа ў іх добра раскладзеных арганічных рэчываў, праслоек пяскоў, частак водных раслін і драўніны, між іншым, дуба.

Значную плошчу ў гміне займаюць лугі-сенажаці ды выганы або інакш пашы, а таксама лясы, а затым ужо палі. Немалую плошчу складаюць тарфянікі, балоты, пяскі.

### РАСЛІННАСЦЬ І ЖЫВЁЛЬНЫ СВЕТ

Нараўская гміна багатая лясамі. Можна сустрэць тут захаваныя яшчэ невялікія бары і змешаныя лясы, напрыклад, лес „Барок" між вёскамі Ваські і Макаўка, Пухлаўскі і Яноўскі лясы каля аднайменных вёсак. Гэта дзяржаўныя лясы. Захаваліся яны дзякуючы добрай ахове як астанкі пушчаў або памешчыцкіх маёнткаў. Варта адзначыць, што змешаныя лясы ў мінулым займалі найбольшую плошчу дрымучай Белавежскай пушчы.

Травяністая расліннасць найбольш багата прадстаўлена на залiўных сенажацях у далінах рэк Нарвы і Нараўкі ды іх прытоках. У Белавежскай пушчы расце рэдкая трава зуброўка.

*

На тэрыторыі Нараўскай гміны знаходзіцца частка Белавежскай пушчы. На поўнай волі жывуць тут зубры. Яны не толькі зімою падыходзяць да вёсак Падбаравіска, Падваські, Гайдукоўшчына, Цімахі, Рыбакі і Граматна.

Больш распаўсюджаныя тут сарны, алені, дзікі, лісы, барсукі, куны, зайцы, вавёркі, рысі. Паяўляюцца ў гэтай частцы пушчы таксама ваўкі. Неабходна адзначыць баброў, якія прыйшлі з усходняй Белавежы і пасяліліся ў 1958 годзе на рацэ Нараўцы.

Свет птушак пушчы і іншых лясных масіваў багаты. Ён захаваўся лепш, чым дзікая жывёліна. Сустракаюцца даволі рэдкія птушкі, як глушцы, рабчыкі, цецерукі; з драпежнікаў — арланы, халзаны, арлы, падорлікі, сапсаны; больш звычайныя — каршуны, совы; з балотных і вадаплаваючых — белыя і чорныя буслы, чаплі, бугаі, розныя віды качак. Даходзяць яшчэ стэпавыя — курапаткі, жаваранкі. З паўзуноў сустракаюцца змеі, вужы і яшчаркі.

### ДЭМАГРАФІЯ

Нараўская гміна займае плошчу ў 24 тысяч гектараў. У ёй 47 вёсак, у тым ліку 39 салэцкіх. Найбольшыя — гэта Нарва (пражывае ў ёй 1534 асобы), Трасцянка (362), Тынявічы Вялікія (263), Ласінка (262), Крывец (232), Сацы (180), Адрынкі (166) і Макаўка (165). Ва ўсёй гміне пражывае 5365 чалавек. Насельніцтва размешчана па тэрыторыі гміны нераўнамерна. Ніжэйшая шчыльнасць там, дзе знаходзяцца дзяржаўныя лясы, балоты. Прафесіянальны склад насельніцтва акрэсліць цяжка, таму што часта члены адной сям'і працуюць адначасова ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці, гандлю або адміністрацыйна-культурных установах. Аднак пераважаючая частка насельніцтва гміны ўтрымоўваецца непасрэдна з земляробства.

Традыцыйна Нарву мясцовыя жыхары называюць „асадай" — усё ж у першай палове XVI стагоддзя Зыгмунт Стары „надаў ёй правы горада". Але ад таго часу змяніўся характар працы жыхароў, упала эканамічна-абаронная значэнне гэтага горада. Нарва гарадскія правы атрымала ў 1514, а страціла іх у 1934 годзе.

Цяпер наглядаецца невялікі адплыў насельніцтва за межы гміны: сёлета і ў мінулым годзе адбыло 170 асоб, а прыбылі 122 асобы, з таго ў мінулым годзе 82.

У нацыянальных адносінах насельніцтва гміны неаднароднае: жывуць тут беларусы і палякі. Беларусы, якія пражываюць у паўночна-ўсходняй частцы гміны, карыстаюцца беларускай мовай, збліжанай да літаратурнай. Беларусы, якія жывуць на захад ад вёскі Бялкі, Трасцянка, Нарва і Ваські карыстаюцца дыялектам — блізкім да брэсцкіх гаворак.

На тэрыторыі гміны жывуць і палякі, якія, як піша А. Ябланоўскі ў сваёй працы „Podlasie", з'яўляюцца асаднікамі абяднеўшай польскай шляхты. Да такіх вёсак залічваюцца Анцуты і Рагазы.

У Нарве ў 1937 годзе было 60% беларусаў, 18-20% яўрэяў і 15-20% палякаў. Яўрэі ў 1942-1943 г. былі вывезены немцамі пачаткова ў Беласток, а потым зверскі знішчаны ў канцлагерах.

Зараз натуральны прырост меншы. У мінулым годзе і сёлета нарадзілася 80 дзяцей. У гэтым самым часе памерла 100 чалавек. Плённым на жаніцьбу быў мінулы год. Сышлося тады 25 пар. Сёлета — толькі дзесяць.

Бацькі даюць дзецям такія імёны: Янна, Анна, Мар'янна, Барбара, Юстына, Моніка, Ілёна, Юліта, Малгажата, Паўліна, Эвеліна, Дар'я, Сільв'я і Саманта — для дзяўчынак; Адам, Якуб, Даніэль, Лукаш, Кшыштаф, Мацей, Тамаш і Пшэмыслаў — для хлопчыкаў.

Да „залатога вяселля" рыхтуюцца сёлета дзве пары: Дзмітрый і Варвара Сахарчукі з вёскі Істок ды Павел і Анна Селеванюкі з Тынявічаў Вялікіх.

Найстарэйшай жыхаркай Нараўскай гміны з'яўляецца Мар'я Васілюк з Трасцянкі — пражыла яна 99 „вёснаў".

*(Працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# ХТО ВЫСВЕТЛІЦЬ ГЭТУ З'ЯВУ?




Вось карта Беласточчыны, на якой пазначаны адміністрацыйны падзел ваяводства. Адлюстроўвае яна шчыльнасць насельніцтва ў паасобных гмінах (за выключэннем гарадоў). Разглядзеўшы гэту карту, узнікае пытанне: чаму заходняя частка ваяводства больш населена за ўсходнюю?

А вось паказчыкі шчыльнасці насельніцтва ў некаторых гмінах (лічба абазначае колькасць жыхароў, якая прыпадае на адзін квадратны кіламетр): Шудзялава — 16, Нараўка — 16, Гарадок — 17, Мельнік — 17, Дубічы-Царкоўныя — 18, Мілейчыцы — 19, Нарва — 22, Боцькі — 27, Орля — 28, Гродзіск — 28, Тыкоцін — 36, Рудка — 37, Пасьвентнэ — 38, Ясёнуўка — 38, Крыпна — 41.

**ЯН МОРДАНЬ**

# ДЭМАКРАТЫЯ ТЫ НАША ГМІННАЯ...

☛ *Працяг са стар. 1*

схільнасці і талент маладога паэта былі заўважаны таксама Максімам Багдановічам. Выхад ягонага аўтарскага зборніка паэзіі запыніла першая сусветная вайна. Толькі ў 1991 годзе зборнік быў выдадзены ў Менску "Мастацкай літаратурай". Радны Л. Тарасэвіч прапанаваў, каб вуліцу, пры якой стаяў дом паэта (згарэў ён у 1943 годзе) назваць вуліцай М. Арла -- пад такім літаратурным псеўданімам С. Пятэльскі заіснаваў у беларускай літаратуры і на старонках віленскай "Нашай ніве". Гэтая прапанова сустрэлася аднак з супраціўам у форме грамадскага запатрабавання, каб вуліца тая звалася Царкоўнай, што, дарэчы і выявілася ў галасаванні -- радныя галасавалі або за вуліцай М. Арла, або за Царкоўнай. Значыць нават той, каму не адпавядала ніводная з прапанаваных назваў, галасаваў за Царкоўнай. Атрымалася ў выніку галасавання вуліца Царкоўная.

Пытанне змены назваў вуліц у Гарадку, у адчуванні аўтара, неахвотна разглядалася раднымі. У дыскусіі надта выразна адчувалася такую ноту, што справу гэту лепш не кранаць, маўляў, патрэбны тут нейкі ўказ зверху, не вядома ці "дазволяць". Хто аднак для гарадоцкіх радных з'яўляецца гэтай вышэйшай інстанцыяй -- невядома. Глянуўшы з другога боку, у паводзінах радных выяўляецца нешта супярэчлівае, бо што пра іх ні казаць, а гаспадарамі ў сваёй гміне ўсё-ткі ўмеюць быць. Сведчыць пра гэта хаця б справа перанясення ў іншае памяшканне гарадоцкага загса (USC) -- дыскусія ў гэтай справе была жывой і канкрэтнай. Радныя пагадзіліся, што ўстанову перанесці трэба, неабавязкова аднак за 150 мільёнаў. Радныя вельмі канкрэтна паставіліся таксама да просьбы гарадоцкай паліцыі -- паліцыя, у рамках дапамогі самаўрада для мясцовага камісарыята, прасіла раду закупіць "alkomat i lampę sygnalizacyjną do samochodu uprzednio przez gminę zakupionego". Дай ім "alkomat", то пачнуць нам правы адбіраць, жартам заўважыў адзін з радных. Жартаў не было аднак у галасаванні -- "паланез" раней дасталі, а пра іншае старайцеся цяпер самі. Аднагалосна.

**А. МАКСІМЮК**

Вытокі і вынікі голаду 1932-1933 г. г. на Беларусі

# ТРАГІЧНАЯ НАВАЛЬНІЦА

*У 1927 г. XV З'езд бальшавіцкай партыі прыняў „курс на калектывізацыю" на тэрыторыі СССР. У выніку гэтага рашэння мільёны сялян, супраць сваёй волі, прымушаных было аддаць зямлю і маёмасць у распараджэнне калгасаў. Тых сялян, якія хаця б на словах паказалі знеахвочанасць новай формай гаспадарання хутка саслалі ў Сібір, пасадзілі ў турмы і канцлагеры. Вынікаў рэвалюцыйнага пераўтварэння ўласнасці на зямлю не прыйшлося доўга чакаць. У 1932 г. прыйшла навальніца голаду.*

*Ніжэй змяшчаем фрагменты артыкула менскага гісторыка Анатоля Сарокіна, які паказвае вынікі сталінскай аграрнай палітыкі на Беларусі.*

Рэд.

З восені 1932 г. рэзка пагоршылася харчовае становішча. Прычым не столькі з-за недароду, колькі з-за далейшага развіцця неабдуманага характару рэквізіцыйных нарыхтовак па прынцыпу — забраць усё, да зерня ў вытворцаў у засекі дзяржавы ў імя вялікай мэты. Не выпадкова пры скарачэнні тэмпаў павелічэння валавой прадукцыі рост нарыхтовак працягваўся. Дзякуючы „падсцёбванню" калгаснікі і некалгаснікі рэспублікі за дзве апошнія дэкады 1932 г. выканалі больш паловы плана нарыхтовак, перасягнуўшы яго на 106 працэнтаў. А ў засеках свірнаў вельмі многіх гаспадарак тым часам было зусім бедна. Так званыя „сабатажнікі" нарыхтовак на падставе надзвычайных мер высылаліся ў Сібір.

Завяршылася ўсё гэта самым жорсткім у гісторыі СССР голадам 1932-1933 г.г. Навальнічныя хмары, як кажуць, збіраліся доўга, але сама навальніца разгарнулася цяпер. Гэта была кульмінацыя вялікай трагедыі. Ім былі ахоплены ў першую чаргу збожжавыя раёны: Украіна, Паўночны Каўказ, Ніжняя і Сярэдняя Волга, Паўднёвы Урал, Казахстан. Там выміралі не толькі сем'і, але і цэлыя паселішчы. Смерць стала калектыўнай, звыклай. Голад даводзіў людзей да людаедства. Як адзначаў Сталін, у краіне было ахоплена голадам 25-30 мільёнаў чалавек. Бедства набыло памеры катастрофы. У вярхах, аднак, не нудзіліся. Калі „выдаткі" пачатку 20-х гадоў шмат у чым адносіліся імі да вынікаў дзеянняў крыважэрных імперыялістаў, то цяпер — сялян, у тым ліку калгаснікаў. Яны, маўляў, недаацэньвалі неабходнасць новай фазы рэвалюцыйных пераўтварэнняў ва ўсім укладзе жыцця.

Не абмінуў голад і Беларусь. Асабліва напружаным харчавое становішча было ў паўднёва-ўсходніх раёнах. Рэзкае зніжэнне ўзроўню жыцця прывяло да таго, што з абедзеннага стала прыктычна зніклі традыцыйныя прадукты харчавання. Людзі часам елі тое, што і жывёле не скармлівалася. Многія пласты грамадства перайшлі на элементарнае збіральніцтва (траў, лісця, грыбоў, жалудоў і г.д.), спажывалі адыходы вытворчасці (мякіна, патака, мёрзлая або гнілая бульба і г.д.).

Паводле ўспамінаў былой калгасніцы калгаса „Перхурава" Старасельскага сельсавета Дзяржынскага раёна Я. Л. Дзянскевіч, „крапіву і асаку, якія выраслалі ля платоў, людзі з'ядалі. Прывозімыя... бацькам з Менска хлебныя скарыначкі елі з задавальненнем (якія, праўда, ён не заўсёды мог дастаць)". На фоне агульнага збяднення просьбы жабракоў, колькасць якіх узрасла, далёка не заўсёды маглі быць пачутыя. „Той, хто, здавалася, павінен быў даваць, сам не меў кавалка хлеба... Бо гадавы заробак калгасніка змяшчаўся ў торбачцы за плячыма", — не без горычы апавядае тая ж сведка.

Успамінаецца характэрны ў гэтых адносінах і эпізод з дакументальнай аповесці беларускага пісьменніка Ф. Аляхновіча „У кіпцюрах ГПУ", падзеі якога адбываюцца ў памяшканні чыгуначнага ГПУ Менска ў верасні 1933 года. Вязень, развітваючыся з маці, перадае ёй каля кілаграма чорнага хлеба, які атрымаў на дарогу ў Бутырках (турма ў Маскве). Прымаючы дрыжачымі рукамі гасцінец, яна, дзякуючы, узбуджана гаворыць: „Сынок мой! Гэта ж вялікі дар... Мы ўжо даўно не мелі столькі хлеба!"

Аб вострым харчовым становішчы ў рэспубліцы паведамляе Э. Шабуня, сястра вядомага грамадскага і культурнага дзеяча А. Луцкевіча, якая жыла ў Менску. У лістах 1932-1933 г.г. да брата і сястры за мяжу яна скардзілася на дрэннае харчаванне сям'і, немагчымасць набыць мукі (хіба што ў „торгсине" — краме па абмену каштоўнасцей на тавары першай неабходнасці), высокія цэны на харчы, спадзеючыся на іх дапамогу. У Мсціслаўскім раёне, паводле ўспамінаў відавочцы, з-за недаядання сяляне пухлі.

Мелі месца і смяротныя зыходы ад знясілення. „Неймаверна цяжкае становішча з харчамі" ў калгасах Гомельскага раёна (большасць іх, як і калгаснікаў, не мела ніякіх прадуктаў харчавання) выклікала знясільванне „вялікай колькасці" людзей. Да лета 1933 года ў трох калгасах ад голаду памерла 9 чалавек. У сярэдзіне 1933 г. у 9 сельсаветах Ельскага і Нараўлянскага раёнаў галадалі каля 500 сялянскіх сем'яў. З іх 130 чалавек памерлі. Не менш сур'ёзным становішча было і ў іншых раёнах рэспублікі. Лёс народа знаходзіўся на мяжы вымірання. І ў той жа час, вядома, у беларускай вёсцы знайшла прытулак і ежу немалая колькасць галадаючых бежанцаў з Украіны.

Афіцыйная статыстыка не ўтрымлівае звестак пра ахвяраў галоднай смерці. Таму называюцца самыя розныя лічбы загінуўшых па СССР — ад трох да дзесяці мільёнаў. І гэта пры наяўнасці 45 мільёнаў цэнтнераў дзяржаўных харчовых запасаў, у тым ліку на выпадак вайны.

Дарэчы, у 1932 годзе ў Заходнюю Еўропу было вывезена з СССР 18,1 мільёна цэнтнераў збожжа. А ў самым галодным 1933 годзе — каля 10 мільёнаў. „Голад жа, — паводле аргументаваных назіранняў англійскага гісторыка Р. Квеста, — не быў дастаткова важнай прычынай для выкарыстання гэтых рэсурсаў".

Сапраўды, ад насілля, як трапна заўважыў англійскі гісторык А. Кёстлер: „сцяг Рэвалюцыі задубеў ад крыві", якая аддавалася народам па жаданню таталітарызму ў імя абароны светлага будучага". Здаецца, лепш не скажаш.

Па колькасці людскіх і матэрыяльных страт гэта была неаб'яўленая грамадзянская вайна. Ахвяраў аказалася так шмат, што дасягнуты вынік на шляху сацыяльнага эксперымента можна назваць піравым. Зразумела, не апошнюю ролю ў ім адыгрывала і барацьба рэжыму з рыначнымі адносінамі, якія склаліся за гады нэпа, дзеянні яго па нейтралізацыі нястачамі і нават голадам тых, хто нібыта недаацэньваў пераваг шчаслівага жыцця ў „горадзе-садзе". Ствараемая на вёсцы так званая адзяржаўленая грамадская ўласнасць дазваляла органам улады дыктаваць земляробам не толькі дзе, калі і колькі сеяць, але і распараджацца выраблёнай імі прадукцыяй. І гэта пры тым, што па аплаце працы калгаснікі належалі да найбольш нізкааплатных катэгорый насельніцтва. Прычым на той час яны зарплату ў грашовым выражэнні наогул амаль не атрымлівалі. А калі сталі атрымліваць грашыма, то іх заробак складаў не больш дзвюх трэціх ад сярэдняга па народнай гаспадарцы. І да сённяшняга дня гэтая „традыцыя" захоўваецца.

* * *

Трагічныя перамены, якія перажыла вёска на вачах аднаго пакалення, не маглі, вядома, не адбіцца на духоўных і маральных сілах народа. Гэта становіцца тым больш відавочным, калі прыняць да ўвагі разбураны эканамічны механізм, не адноўлены і да сённяшняга дня, згублены прэстыж сялянскай працы. Але гэта пытанні, вартыя самастойнага асэнсавання.

*„Культура", н-р 38*
*ад 28 верасня 1993 г.*

# ПІСЬМЫ З ФЛАРЫДЫ

## 1

Польскі „Боінг" на дзвесце пяцьдзесят пасажыраў ляціць з Варшавы ў Нью-Йорк у палове паражняком. На гэту яго недагружанасць маюць уплыў, як мне здаецца, не толькі цэны білетаў, абавязковых у два бакі (каля трынаццаці мільёнаў злотых на чалавека). У Злучаных Штатах трэба візу, а даюць яе ў амерыканскім пасольстве далёка не кожнаму; атрымліваюць прыблізна 15-20% тых, хто просіць. Так абараняецца супердзяржава дабрабыту ад сусветнага наезду на яе галоты. Я з Таняй занадта не баяліся быць адпраўленымі, але таму, што не маладыя мы і дастаткова заможныя; консулу гэта гарантыя таго, што ніхто з амерыканцаў не возьме нас на „чорную работу", а таксама не будзе нам сэнсу думаць, каб застацца жыць у іх. Беднаму і маладому ўштамплёўваюць у замежны пашпарт зазвычай адмову (не заўсёды выратоўвае аргумент нават блізкага сваяцтва).

Самалёт стартуе ў паўночным напрамку; простыя заходнія паветраныя калідоры даўно занятыя лепшымі авіялініямі (найпапулярнейшая „Дэльта", брытанская). У асенняй пахмурнасці ўнізе час-часам бачны з вышыні дзесяці кіламетраў цясніны Даніі, жучок карабля ў маршчынах Атлантыкі, эскадры ледзяных гораў ля Грэнландыі, снежныя віхуры ў вечна марозных там горах; затым — канадская тундра, пушчы і азёры Квебека, мурашнікі метраполіяў на Усходнім Берагоўі. І, урэшце, пасля дзесяці гадзінаў лёту прызямленне на лётнішчы імя Кенедзі. Пакружыўшы перад гэтым паўгадзіны над бяскраем самага шматмільённага горада ЗША, начэкваючы свае чаргі (рух, бы ў вулеі).

Да выхаду наперадзе самалёта падстаўляюць т. зв. рукаў, якім накіроўваешся ў пасажырскім натоўпе да бар'ераў з пастамі іміграцыйных службоўцаў. Перад імі „спавядаешся", чаго ты прыбыў у Амерыку; нягледзячы на атрыманую ў Варшаве візу на ўезд, маюць жа яны права не прапусціць цябе, вярнуць назад у Польшчу (бліжэйшым рэйсавым „Боінгам", бо ж у цябе і зваротны білет!).

У чакальнай залі меўся сустрэць нас Сяржук Сокалаў-Воюш, але нешта яму перашкодзіла ў тым. На яго просьбу, прыехаў па нас Кастусь Мярляк, вядомы дзеяч эміграцыі. Як і павінен кожны энергічны чалавек, ён адразу распытаў пра планы і дапамог у куплі максімальна танных білетаў на авіялініі поўдня Штатаў (канкурэнтна дамінуе тая ж „Дэльта", базуючы на лётнішчы ля-Гуардыя). Нам трэба дабрацца на Фларыду, за тысячу міляў далей, у мястэчка Гэйнэсвіл, дзе пражывае спадар Ян Пятроўскі, які і запрасіў мяне з Таняй пабыць у яго некалькі тыдняў.

Пакуль што адбываем кароткую акліматызацыю ў ціхім асабняку спадарства Мерлякоў, што недзе ў зялёнай гушчавіне нью-йорскіх кварталаў прыватнай забудовы. Стамляе не столькі інтэнсіўная гутарка за сталом пасля доўгай дарогі, наогул банальная, колькі менавіта кліматычная амплітуда; апынуліся ж на геаграфічнай шырыні прыблізна Неапаля. У сваім адзенні халоднага канца лета ў Беластоку мы тут мамантальна ўспацелі. Гасцінным гаспадарам пакідаем сувеніры — апошнія нумары „Нівы", „Czasopisa", чацвертыя „Беларускія навіны", трохі польскай газетнай беларусікі; пару кніжак „белавежаўскіх" аўтараў. Зашмат з сабою не прывязеш сюды друкаў; папера аказваецца цяжорнай, а багажны ліміт вызначаны на трыццаць кілаграмаў (уключна з усімі іншымі рэчамі, якія мус узяць у такое падарожжа).

Схопліваемся назаўтра з пасцелі даволі рана. Будзем ляцець ў Арлянда, з перасадкаю там на Джэксанвіл. Камплікацыя невялікая, калі знаёмы ты з музыкаю амерыканскага маўлення. На ўсякі выпадак, сцюардэса даклейвае да нашых білетаў картку, каб абслуга арляндскага лётнішча пастаралася дзеля нас перакладчыка „спік поліш энд спік рашн энд спік беларашн..." Але, тамака, ніхто пра гэткія мовы не чуў; нейкі негр у мундзіры нават здзівіўся, што... Расія мае асобную, замест агульназразумелай у свеце ангельскай!.. Нехта запытаў у мяне, ці беларусы — можа — гэта сербы? „Наў!" — запярэчыў я. Замяшанне, зрэшты, было цалкам лішнім: сістэма інфармацыйных табліцаў зусім чытэльна выводзіць у патрэбныя дзверы.

Лайнер з Нью-Йорка ў Арлянда прытрымліваецца прыакіянскай паласы Усходняга Берагоўя, гледзячы зверху на якую маецца ўражанне, што бачыш унізе адзін вялізны горад, разрослы на дзесяткі соцень кіламетраў; з характэрнай распланоўкаю прамавугольнымі кварталамі, геаметрычна рэгулярнымі. Амерыка, дарэчы, безупынна перабудоўваецца ды разбудоўваецца. Тыя ж лётнішчы Кенедзі або ля-Гуардыя не пазнаць цяпер, пасля пяці гадоў, калі мы тут былі ў свой першы прылёт (таму так памятны).

Вылет у Джэксанвіл адбыўся ўжо самалётам усяго на дваццаць месцаў. Няма такога мястэчка, якое не мела б свайго лётнішча, сталай паветранай сувязі. У каго больш часу, той едзе аўтамабілем або кур'ерскім цягнікам. Так зрабілі мы з Джэксанвіл у Гэйнэсвіл, пад сотню міляў у бок Мексіканскага заліву.

**САКРАТ ЯНОВІЧ,**
**Гэйнэсвіл, верасень.**

# ПРЭСА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯЎ

Музей Warmii i Мазураў супольна з Інстытутам польскай філалогіі Вышэйшай педагагічнай школы ў Ольштыне арганізавалі 8 кастрычніка семінар, прысвечаны прэсе нацыянальных меншасцяў у Польшчы.

У нашай краіне не заўсёды было месца для газет нацыянальных меншасцяў. Пасля палітычных перамен у 1956 годзе ўлады дазволілі выдаваць беларускую „Ніву" і ўкраінскае „Наше слово", якія выходзяць да сённяшняга дня. У 1957 годзе ў Вроцлаве друкаваўся нямецкі „Arbeiterstimme", але быў ён закрыты рашэннем згары; цяпер у Ольштынскім рэгіёне выходзіць бадай тры нямецкія газеты. Актуальнай праблемай меншаснага друку з'яўляецца не дазвол улад, а тое, што штораз менш людзей чытае газеты. У дакладах і ў дыскусіі падкрэслівалася, што прэса гэтая падтрымлівае нацыянальную свядомасць меншасці, знаёміць з яе культурай і мовай. На семінар прыйшло даволі многа людзей, каб паслухаць і прыпомніць, што сорак гадоў таму былі яны беларусамі, украінцамі ці літоўцамі, а цяпер пра гэта забылі. Іх унукі, якія тут нарадзіліся, не ведаюць ужо мовы сваіх дзядуляў і бабуляў.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# ЛІЦЭЙ ПРАЦУЕ

15 кастрычніка гэтага года адбылося ў Гайнаўцы афіцыйнае адкрыццё II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання. Фактычна школа пачала працаваць ужо ў пачатку верасня -- тады менавіта ўвайшлі ў школу вучні з настаўнікамі ды пачалі першыя свае заняткі ў 1993/94 навучальным годзе. На ўрачыстасць адкрыцця новага будынка ліцэя прыбылі: мітрапаліт Варшаўскі і ўсёй Польшчы Васілій, праваслаўнае і каталіцкае духавенства Гайнаўкі, віцэ-міністр асветы Рэспублікі Беларусь Людміла Сухнат, віцэ-куратар асветы ў Беластоку Ян Замбжыцкі, пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Сянько, прадстаўнікі гарадскіх улад Гайнаўкі, дырэктары гайнаўскіх і бельскіх школ, кіраўніцтва Беларускага грамадска-культурнага таварыства, кіраўніцтва Беларускага музея ў Гайнаўцы, вучні, бацькі ды шмат хто іншы, хто цікавіўся гайнаўскай пабудовай ды палічыў патрэбным прыняць удзел у яе фінале.

Урачыстасць пачалася, як заўсёды ў такіх момантах бывае, разрэзаннем стужкі пры галоўным уваходзе ў школу. Зрабілі гэта віцэ-міністр асветы Беларусі, беластоцкі віцэ-куратар і пасол Беларусі. Затым кіраўніцтва ліцэя запрасіла ўсіх гасцей увайсці і азнаёміцца з новай школай. Новая школа, калі хто ў ёй яшчэ не быў, перш-наперш з'яўляецца прасторнай -- гэта найважнейшая якасць, якой не хапала старому будынку. Дыдактычных залаў, пэўна ж, хопіць у ёй, каб кожны клас меў сваю асобную. А ці акажацца новы ліцэй утульным? -- трэба пачакаць, хай самі вучні ацэняць.

Гайнаўскі ліцэй пабудаваны быў ды здадзены ва ўжытак на працягу года -- 2 чэрвеня 1992 года адбыўся аўкцыён на пабудову, у якім перамагло Бельска-падляшскае будаўнічае прадпрыемства; 16 чэрвеня будаўнікам была перададзена пляцоўка пад пабудову, а ў пачатку верасня гэтага года ў школу ўвайшлі вучні. Што ж, аказваецца, будаваць у нас можна хутка і спраўна -- прамінуў ужо той час, калі афармленне мяшка цэменту патрабавала палітычных вырашэнняў. Давай толькі грошы, а выканаўца сам знойдзецца. Вось толькі тыя грошы -- тут, здаецца, засталося па-ранейшаму. Вядома, што такую інвестыцыю як гайнаўскі ліцэй нельга ажыццявіць грамадскай натугай. Дапамога дзяржавы ў той жа ступені неабходная, што і вырашальная. У выпадку беларускага ліцэя датацыя надышла з боку Міністэрства нацыянальнай адукацыі, якое і сфінансавала ўсю інвестыцыю. З пункту гледжання вучняў, іхніх бацькоў, настаўнікаў ды наогул беларускай грамады тут -- гэта найважнейшая справа. Іншай справай з'яўляецца тое, што вялікага ўплыву беларусы на прызнанне гэтай датацыі не мелі. Калі б не спрыяльны палітычны момант, наўрад ці сродкі на пабудову беларускага ліцэя знайшліся б. Міністэрства нацыянальнай адукацыі хутчэй за ўсё кіравалася інтарэсам польскай грамады ў Беларусі, чымсьці любоўю да беларусаў у Польшчы і зразуменнем іхніх праблем. Гэта, бадай, усё, на што нацыянальная меншасць можа разлічваць. Поспех -- гэта ўмельства пакарыстацца зручнаю нагодай. Гайнаўскаму ліцэю пашанцавала.

Пасля агляду будынка ў школьнай аўдыторыі адбылася галоўная ўрачыстасць. Пачалі яе праваслаўныя святары малебнам. Пасля яго выступалі са словам запрошаныя госці. Мітрапаліт пажадаў вучням, каб здабытых ў новай школе веды як найлепш служылі ў іхнім далейшым жыцці. Што праўда, адзначыў мітрапаліт, пагроза ваюючага атэізму ўжо прамінула, але яе месца часта займае ідэалогія фальшывай свабоды. Пасля гадоў няспыннай працы беларускага школьніцтва на Беласточчыне, сказаў беластоцкі віцэ-куратар, можна лічыць, што яго цэнтр знаходзіцца цяпер у Гайнаўцы. З прывітаннем выступілі яшчэ пасол Беларусі Уладзімір Сянько, віцэ-міністр асветы Беларусі Людміла Сухнат, дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікалай Бушко, дырэктарка бельскага Беларускага ліцэя Зінаіда Навіцкая і ганаровы старшыня БГКТ Аляксандр Баршчэўскі. Вялікае хваляванне паблытала гэтаму апошняму адкрыццё ліцэя з адкрыццём музея. Былі таксама зачытаны віншавальныя лісты ад беластоцкага куратара П. Літэрмуса і былога міністра нацыянальнай адукацыі А. Стэльмахоўскага (на ўрачыстасць ён не прыехаў з увагі на першае пасяджэнне Сената).

Знамянальным у адкрыцці гайнаўскага ліцэя было замаўчанне ў ім прозвішча Васіля Дамброўскага -- дырэктара ліцэя ў перыяд ад красавіка 1991 да сакавіка 1992 г. Справа невялікая, калі ўлічыць, што пабудова школы фактычна вырашалася на палітычным узроўні, а не самімі беларусамі, але ўсё-такі гэта за яго дырэктарства была аформлена ўся дакументацыя ды яму А. Стэльмахоўскі склаў дэкларацыю аб дапамозе ў пабудове новай школы. Слушна заўважыў А. Баршчэўскі, што поспех мае шмат айцоў -- В. Дамброўскі сярод іх усё-такі быў дый успамін па сабе пакінуў не найгоршы, калі меркаваць паводле воплескаў, якія прагучалі яму ў той момант як у форме спраставання было выяўлена і яго прозвішча.

Варта на заканчэнне прывесці словы актуальнага дырэктара ліцэя Яўгена Сачко. Здзейснілася ўрэшце думка пра новы будынак для беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Несумненна, сярод тых, якія гэта ажыццяўлялі было шмат людзей. Між іншым былі і выпускнікі гэтага ліцэя, якія бачылі, што і іхнім дзецям даводзіцца вучыцца ў тых жа дрэнных умовах. Ну, але сёння ўмовы тыя цалкам адмяніліся.

Зараз пасля ўваходу ў школу можа кінуцца вам у вочы сціпленькі насценны гадзіннік -- гэта той жа, які і ў старым будынку адмерваў званкі на ўрокі і перапынкі.

**(алм)**

**Колькі дзяцей будзе ўмець гаварыць і пісаць па-беларуску?**

## НАВУЧАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ Ў 1993/94 НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДЗЕ

### ПАЧАТКОВЫЯ ШКОЛЫ

| Мясцовасць | Агульны лік вучняў | Лік вучняў, якія вывучаюць беларускую мову |
|---|---|---|
| 1. Гайнаўка Н-р 2 | 1630 | 64 |
| 2. Гайнаўка Н-р 1 | 1417 | 42 |
| 3. Бельск Н-р 3(*) | 1031 | 934 |
| 4. Гарадок | 642 | 43 |
| 5. Чаромха (пасёлак) | 523 | 19 |
| 6. Нарва | 391 | 51 |
| 7. Нараўка | 337 | 47 |
| 8. Мілейчыцы | 258 | 18 |
| 9. Кляшчэлі | 243 | 33 |
| 10. Орля | 229 | 143 |
| 11. Гайнаўка Н-р 3 | 205 | 55 |
| 12. Дубіны | 176 | 108 |
| 13. Старое Ляўкова | 150 | 110 |
| 14. Чыжы | 148 | 124 |
| 15. Рыбалы | 134 | 27 |
| 16. Аўгустова | 124 | 28 |
| 17. Храбалы | 123 | 66 |
| 18. Малінnetworkі(*) | 111 | 104 |
| 19. Кленікі(*) | 110 | 102 |
| 20. Арэшкава | 96 | 72 |
| 21. Семяноўка | 86 | 51 |
| 22. Махнатае | 84 | 46 |
| 23. Новае Беразова | 83 | 50 |
| 24. Дубічы Царкоўныя | 77 | 55 |
| 25. Ласінка(*) | 75 | 62 |
| 26. Трасцянка | 75 | 30 |
| 27. Стары Корнін | 57 | 50 |
| 28. Крывец | 54 | 32 |
| 29. Дашы | 54 | 30 |
| 30. Краснае Сяло | 54 | 15 |
| 31. Курашава | 52 | 37 |
| 32. Палічна | 51 | 30 |
| 33. Сакі (гм. Кляшчэлі) | 50 | 28 |
| 34. Залукі | 50 | 22 |
| 35. Пасынкі | 49 | 39 |
| 36. Клюковічы | 47 | 7 |
| 37. Нурэц (гм. Боцькі) | 39 | 27 |
| 38. Ляшукі | 37 | 30 |
| 39. Грабавец | 32 | 25 |
| 40. Новае Корніна(*) | 30 | 26 |
| 41. Дубяжын | 30 | 18 |
| 42. Чаромха (вёска) | 16 | 12 |
| Разам у пачатковых школах | 9260 | 2911 |

### ЛІЦЭІ
### (з абавязковым навучаннем беларускай мовы)

| | |
|---|---|
| 1. Бельск | 372 |
| 2. Гайнаўка | 352 |
| Разам у ліцэях | 724 |

### ЗАЎВАГІ

У рубрыцы ПАЧАТКОВЫЯ ШКОЛЫ ў другой калонцы падаецца лік дзяцей ад II да VIII класаў, якія вывучаюць беларускую мову.

(*) Пачатковыя школы, у якіх 100% дзяцей у класах II-VIII вывучае беларускую мову. Навучанне беларускай мовы ў пачатковых школах мае статус абавязку толькі ў выпадку школы н-р 3 у Бельску -- ва ўсіх іншых школах адбываецца яно па прынцыпу добраахвотнасці.

У рубрыцы ЛІЦЭІ падаецца агульная колькасць вучняў у школе -- яна адпавядае колькасці навучэнцаў беларускай мовы, паколькі навучанне гэтае ў абодвух ліцэях абавязковае.

**(алм)**

# НАША РОДНАЯ МОВА

*Працяг са стар. 1*

беларускага ліцэя. Сённяшнія настаўнікі памятаюць мову з пачатковай школы.

— Я вельмі ахвотна прыняла б беларусістаў. Прыходзяць часта да мяне беспрацоўныя выпускнікі беларускай філалогіі. Што зробіш, калі няма вольнага штату, — гаворыць дырэктар.

Размову перарывае званок. Запрашаюць мяне ў пяты клас. Пан Дарак тлумачыць мне, што беларуская мова гэта

**НАША РОДНАЯ МОВА.**

На занятках дзеці пераважна чытаюць „Зорку". Сёння таксама ўрок па „Ніве".

— Падручнікі нашыя вельмі недарэчныя. Мінаюцца з рэальным жыццём. Дзеці гэта адчуваюць, — гаворыць па беларуска-рускай мове настаўнік.

У класе прапануе ён дзецям праспяваць песні:

— Давайце „Беларусь мая". Гэта патрыятычная песня, — паясняе.

Далей плыве рэпертуар „Дубіноў", „Грамады", Сокалава-Воюша. Беларуска-украінскія песні заліваюць школьны будынак. Пан Дарак вельмі любіць спяваць. Вучыць таксама спеваў ў 5 і 6 класах.

— Песня, — кажа, — застаецца ў сэрцы.

Гляджу ў сшыткі вучняў. Тэмы, вершы з „Зоркі", тэксты песень. Маса памылак, татальная непісьменнасць! Пан Дарак каментуе:

— Nawet po polsku piszą z błędami.

Заняткі нарэшце канчаюцца. Застаюся з дзецьмі

**НА ПЕРАПЫНКУ.**

Усе гавораць на паўночна-заходнім палескім дыялекце, размаўляюць амаль выключна аб капанні бульбы. Усе памагаюць бацькам пасля заняткаў у школе. Аня, найлепшая вучаніца, прызнаецца, што хацела б паехаць на беларускі дэкламатарскі конкурс. Вельмі кахае „Зорку" і вершы Віктара Шведа.

— Слухаю таксама беларускія радыёперадачы, а калі мама не бачыць, чытаю „Сэрцайка", — прызнаецца амбітная дзяўчынка.

Пасля перапынку пані К. вядзе мяне ў восьмы клас. Настаўнічае яна ўжо 32 гады. Беларускай мове вучыць першы год:

— Не думала я ніколі, што на старасць буду

**ВУЧЫЦЬ І БЕЛАРУСКУЮ.**

— Няма добрых падручнікаў. Гэтыя дзеці не прачыталі ніводнай кніжкі па-беларуску з бібліятэкі. Там і няма нічога цікавага для іх. Маюць нам прысылаць кнігі з Беларусі. Чакаем ужо доўга, — дабаўляе настаўніца.

Урок быў прысвечаны Багдановічу. Дзеці працуюць над санетам. Настаўніца папраўляе вымаўленне, якраз на рускі манер. Вершы гучаць быццам у тлумачэнні. Пані К. скончыла русістыку 23 гады таму назад. Яе ідал — Алесь Барскі.

— Беларускую мову ведаю слаба, — прызнаецца пані К.

**— НЕ ЎСЕ ДЗЕЦІ ХОЧУЦЬ ВУЧЫЦЦА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ,**

— наракае дырэктар. — Няма ў нас прымусовага навучання. Каб загадалі вучыць як так, як рэлігію, усе хадзілі б. Бацькі вінаваты. Не адчуваюць яны патрэбы, каб іх дзеці вучыліся гэтай непрактычнай мове. Самі не ведаюць літаратурнай мовы. Цяпер і па вёсках ад калыскі вучаць па-польску.

Пытаюся, чаму ніхто з інтэлігентаў не гаворыць са мной на літаратурнай мове. Маўчанне.

— Мы і нашыя вучні не цураемся беларускай мовы. Едзьце, калі ласка, ў Гайнаўку. Там — пабачыце, — пасылае мяне пан Дарак.

Запрашаюць мяне на іншыя ўрокі. Спадзяюся, аднак, што буду слухаць гэтыя ж самыя песні і фрагменты з „Нівы".

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

P.S. *Імёны настаўнікаў зменены.*

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

З вучнёўскай творчасці

**КАМЕНЬЧЫК**

Каменьчык, праменьчык...
Вось былі вакацыі!
Ў школу трэба бегчы...
І каб наша школа
Была, як мы, вясёлай,
Напішам ёй вершык
На лістку акацыі.
Мы з кніжкамі ў школе, —
Гэта не прадшколле!
У мяне каменьчык
З вясёлых вакацый,
І нясу я ў школу
Вершык-ліст акацыі.

**АДА СЕМЯНЮК,**
**Беласток**



*Перад вылетам у свет.* **Фота М. Лукшы**

ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

## ЛІСТАПАД, АБО ЧАМУ АПАДАЕ ЛІСЦЕ?

Яшчэ ў жніўні на бярозах і ліпах з'яўляюцца жоўтыя лісткі, але яны не ападаюць. Іх нават вецер не адразу зрывае. Значыць, не пара ім пакідаць дрэвы.

...І вось закончыўся верасень. Сонечнымі цудоўнымі днямі пачаўся кастрычнік. Дрэвы змянялі зялёнае адзенне на рознакалятовае. Бярозы і ліпы адліваюць бронзава-жоўтым колерам, на іх фоне выдзяляюцца чырванаватыя асіны, залацістa-аранжавыя клёны. Толькі лісце бэзу, вольхі і ясеню не змяніла свайго колеру і ападае зялёным.

...Сонечнае надвор'е змянілася непагаддзю. Падзьмуў паўночны вецер, закруцілася ў паветры жоўтае лісце і зашамацела тонкім дыванам пад нагамі. Пачаўся лістапад. Цяпер жоўты ліст не трэба зрываць сілай. Дастаткова толькі дакрануцца да яго, і ён адлучыцца ад галінкі.

А чаму так бывае? Якая сіла прымушае лісцёвыя дрэвы штогод скідаць сваё ўбранне? І чаму жаўцее асенняе лісце?

Першым пераканаўчы адказ на гэтае пытанне даў Клімент Ціміразеў. Сваімі шматлікімі вопытамі даказаў, што зялёны ліст улоўлівае сонечную энергію, паглынае з паветра вуглякіслы газ і выдзяляе кісларод. Унікальная фабрыка зялёнага ліста працуе ў садружнасці з каранямі, якія падаюць лістам ваду і мінеральныя рэчывы. Лісты з дапамогай акумулюемай імі сонечнай энергіі і вуглякіслага газу раскладаюць паступаючую ў іх ваду на вуглярод і кісларод. Кісларод выдзяляецца ў паветра, а вуглярод злучаецца з новымі „порцыямі" вуглякіслага газу і іншымі элементамі і ператвараецца ў арганічнае рэчыва (крухмал, цукар, бялок і інш.). К. Ціміразеў назваў гэты працэс фотасінтэзам. Ажыццяўляецца ён у зялёным рэчыве — хларафіле, які знаходзіцца ў клетках ліста і афарбоўвае яго ў зялёны колер. Разам з хларафілам у лістах ствараюцца і іншыя фарбавальныя рэчывы: антацыян, карацін, ксантафін. Але пакуль у лістах бурліва ідзе ўтварэнне зялёнага рэчыва (фотасінтэз), гэтыя фарбавальнікі быццам бы хаваюцца за ім (зялёным рэчывам). А восенню, калі пахаладае, стане меншы дзень і ўтварэнне хларафілу замарудзіцца або зусім спыніцца, жоўтыя і аранжавыя фарбавальнікі выходзяць са сваіх укрыццяў і надаюць лістам розны колер.

Інтэнсіўнасць і працягласць афарбоўкі лісця залежыць і ад характару восені. Пры цёплым і сухім надвор'і лісце хутчэй і раўнамерней набывае асеннюю афарбоўку, чым пры мокрым і халодным.

Вясной і летам дрэвы і кусты бяруць з зямлі пажыўныя рэчывы, а восенню вяртаюць іх у выглядзе лістоў. Асенняе лісце багатае арганічнымі і мінеральнымі рэчывамі. Дзякуючы гэтаму яно прыкметна павялічвае ўрадлівасць глебы і з'яўляецца каштоўным угнаеннем для тых жа дрэў, з якіх упала. Значыць, лісцёвыя дрэвы — не толькі ўнікальная фабрыка арганічнага рэчыва, але і прыклад бездаходнай вытворчасці: ні адзін упаўшы ліст не траціцца ў прыродзе дарэмна, а ўдзельнічае ў агульным кругавароце рэчываў.

**А. МАКАРЭВІЧ**

## ДЗЕДАВА РУКАВІЧЫНА

*КАЗКА*

Жылі дзед з бабай. Паехаў дзед у лес і згубіў рукавічнку. Скача жабка. Прыскакала к рукавічынцы і пытаецца:

— Хто ў гэтай рукавічынцы жыве?

Ніхто не адгукаецца. Яна палезла ў рукавічынку і стала жыць. Трохі спагадзя паўзе рак. Прыпоўз к рукавічынцы і пытаецца:

— Хто тут у гэтай рукавічынцы жыве?

А жабка гаворыць:

— Сама паня-пацыгуня. А ты хто?

— А я рак-тарабун! Ці можна мне?

— Лезь!

Трохі спагадзя бяжыць зайчык. Прыбег к рукавічынцы і пытаецца:

— Хто ў гэтай рукавічынцы?

— Сама паня-пацыгуня і рак-тарабун. А ты хто?

— А я па бярэзнічку скакун. Ну і я палезу к вам.

— Лезь!

Трохі спагадзя бяжыць лісіца:

— Хто ў гэтай рукавічынцы?

— Сама паня-пацыгуня, рак-тарабун, па бярэзнічку скакун. А ты хто?

— А я лісіца — добрая маладзіца. Палезу і я к вам.

— Лезь!

Лісіца ўлезла і сядзіць. Трохі спагадзя ідзе воўк:

— Хто ў гэтай рукавічынцы жыве?

— Сама паня-пацыгуня, рак-тарабун, па бярэзнічку скакун і лісіца — добрая маладзіца. А ты хто?

— Я з-за куста хапун. І я палезу к вам.

— Ну, лезь!

Улез і воўк. Трохі спагадзя ідзе мядзведзь. Прыйшоў к рукавічынцы і пытаецца:

— Хто ў гэтай рукавічынцы жыве?

— Сама паня-пацыгуня, рак-тарабун, па бярэзнічку скакун, і лісіца — добрая маладзіца, і з-за куста хапун. А ты хто?

— А я зверху пацiскун. Пусціце мяне к сабе!

— Не, у нас недзе.

— Ну, я зверху сяду!

Узлез наверх, як ціскануў — так усе звяры і разбегліся.

## Вершы Віктара Шведа

**НЕ ЛЯЖУ НА ПУЦІ**

Не чуў сыночак і званка:
Не змог будзільнік разбудзіць.
Матуля штурхае сынка,
А ён далей спакойна спіць.

— Хутка адыдзе твой цягнік,
Дык трэба на вакзал ісці.
Сынок падняў страшэнны крык:
— А ці ж ляжу я на пуці?

**ПЕРШЫ ПАВОДЛЕ РОСТУ**

Хваліўся дома Коля:
— Я вучань першы ў школе.
Здзіўляецца матуля:
— Цябе так падцягнулі?

Ты раптам такі бойкі,
Што развітаўся з двойкай?
— Матуля, я папросту
Першы паводле росту.

**ГУЛНЯ Ў ЗААПАРК**

Пытае Мікалая Марк:
— Згуляем можа ў заапарк?
Цікава стала Мікалаю:
— Скажы, як гэта выглядае?

— Людзі заўсёды ў заапарку
Даюць звярочкам шмат падаркаў.
Хачу я быць арангутанам,
Ты з хаты прынясеш бананы...

**ЭЛЕКТРЫК — ПРЭЗІДЭНТАМ**

У доме адпачынку
Быў тата з малой Нінкай.
І раптам у святліцы
Зрабілася цямніца.

— Няма бяды, малютка,
Электрык прыйдзе хутка.
— Не прыйдзе, — кажа доня, —
Ён — прэзідэнтам сёння.

**ГАДЗІННІК, А НЕ БУДЗІЛЬНІК**

— Аб вынаходствах людзей, дзеці,
Ведаць дакладна вы павінны.
Адным з такіх цяпер на свеце
Ёсць, безумоўна, наш гадзіннік.

— Ды не будзільнік, — кажа Лёня, —
Такім назваць яго нам трудна.
Заўсёды ён тады вось звоніць,
Калі мы спім сном непрабудным.

**НЕ СЯБРУЙ З РЭЕМ!**

— З усіх найгоршы хлапчукоў, —
Тата сынка надзвычай лае. —
Такіх я непрыстойных слоў
Табе ўжываць забараняю!

— Дык тата, — адказаў Андрэй, —
За іншымі я паўтараю.
Іх ужываў Мікола Рэй.
— З ім сябраваць забараняю!

**МАЛЫ ГУЛЬТАЙ**

Лае свайго сыночка мама:
— Замест дапамагчы каб мне,
Гультайнічаеш ты, Адаме,
Ляжыш сабе на тапчане.

— Табе мо гэта і няміла,
Сам не набыў манер благіх.
Мяне ж нядаўна ты прасіла,
Каб быў я іншы ад усіх.

**ВУЧУСЯ ДАТРЫМОЎВАЦЬ ТАЯМНІЦУ**

Прынёс дахаты двойкі Яраслаў,
А месяц толькі ён у школу ходзіць.
Бацькам сваім нічога не сказаў,
Даведаліся на бацькоўскім сходзе.

— Лянівы, неслухмяны мой сынок,
Не хочаш, бачу, ты зусім вучыцца.
— Зрабіў я гэта, татачка, знарок,
Вучуся датрымоўваць таямніцу.

*ГРАФІНЯ ДЭ СЭГЮР*

# ЗАЧАРАВАНАЯ ХАТКА

**-8-**

*КАЗКА*

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

Разалі шчыра падзякавала прынцу і пайшла ў свой туалетны пакой, дзе яе чакалі фрэйліны, трымаючы напагатоў незлічоныя сукенкі ды самыя розныя капялюшыкі. У Разалі зусім не было звычкі да пышных убранняў, і таму яна надзела першую ж сукенку, якую ёй падалі. Сукенка была з тонкай ружовай тканіны з карункамі, і капялюшык таксама з карункамі, упрыгожаны раскошнымі вялікімі ружамі. Фрэйліны заплялі яе прыгожыя каштанавыя валасы ў касу і ўклалі яе каронай. Калі Разалі была гатовая, прынц прыйшоў запрасіць яе да сняданку.

Разалі ела так, што было адразу відаць, што напярэдадні яна была галодная цэлы дзень. Пасля снедання прынц павёў яе ў сад і паказаў свае цудоўныя шклярніцы. У адной шклярніцы, у самае глыбіні была маленькая альтанка, абвітая прыгожымі кветкамі, а пасярод альтанкі стаяў вялікі вазон, у якім расло, напэўна, нейкае дрэўца, яле яго было не відаць, бо з усіх бакоў яго закрывала шчыльная тканіна. Скрозь покрыва можна было ўбачыць толькі, як нешта ўсярэдзіне незвычайна блішчыць.

### Глава 4

### Дрэўца з альтанкі

Разалі доўга любавалася на розныя кветкі і думала, што зараз прынц здыме покрыва і пакажа ёй таямнічае дрэўца, але ён пайшоў са шклярніцы, нават не загаварыўшы пра яго з Разалі.

— Скажыце, прынц, — спыталася тады сама дзяўчына, — а што гэта за дрэўца там пад покрывам?

— Гэта вясельны падарунак, які я падрыхтаваў для вас, — вясёла адказаў прынц. — Але пакуль вам не споўніцца пятнаццаць гадоў, вы не павінны яго бачыць.

— А што там такое блішчыць пад тканінай? — зноў спытала Разалі.

— Вы даведаецеся пра гэта праз некалькі дзён. І я спадзяюся, што гэты мой падарунак акажацца для вас нечаканым і зусім не звычайным.

— А ці не магу я ўбачыць яго раней?

— Не, Разалі. Каралева феяў забараніла мне паказваць яго вам, іначай здарыцца вялікае няшчасце. Але я спадзяюся, што вы досыць мяне кахаеце, каб на некалькі дзён утрымаць сваю цікаўнасць.

Апошнія словы прымусілі Разалі ўздрыгануцца. Яна зноў успомніла пра шэрую Мыш і няшчасці, якія пагражалі ёй і яе бацьку, калі яна зноў саступіць спакусам Мярзотнае варажбіткі. Яна болей не згадвала пра таямнічае дрэва і пайшла з прынцам далей.

Увесь дзень прайшоў вельмі вясёла. Прынц пазнаёміў Разалі з прыдворнымі панямі і сказаў ім, каб яны паважалі Разалі, як яго жонку, якую абрала яму каралева феяў. Разалі была з усімі вельмі прыязная, і прыдворныя радаваліся, што хутка ў іх будзе такая добрая каралева. Назаўтра і ў наступныя дні былі наладжаныя шумныя балі, паляванні ды вясёлыя прагулкі, і прынц з Разалі шчасліва чакалі ўжо блізкага Разалінавага дня нараджэння, які адначасова павінен быў стаць днём іх вяселля. Прынц чакаў яго таму, што вельмі кахаў Разалі, а Разалі — таму, што вельмі кахала прынца, і таму, што хацела хутчэй зноў пабачыцца з бацькам. Але яшчэ і таму, што ёй дужа карцела даведацца, што ж такое расце ў той альтанцы! Думка пра гэта не пакідала яе ні на хвіліну, і нават уначы яна бачыла альтанку ў сне. Калі ж удзень яна заставалася адна, ёй каштавала вялікага намагання стрымліваць сябе, каб не пайсці ў шклярніцу ды не прыўзняць покрыва над загадкавым дрэўцам.

Нарэшце апошні дзень чакання настаў: назаўтра Разалі павінна было споўніцца пятнаццаць гадоў. Прынц быў вельмі заняты падрыхтоўкаю да вяселля, на якое запрасіў усіх чараўніц з акругі і саму каралеву феяў. Сталася так, што на ўвесь час да абеду Разалі засталася адна. Яна пайшла пагуляць і так, ідучы па дарожцы і думаючы пра свой шчаслівы заўтрашні дзень, неўпрыкмет павярнула да таго месца, дзе стаяла альтанка. Усміхаючыся, у задуменні яна ўвайшла ў шклярніцу — і раптам заўважыла, што стаіць якраз перад вялікім вазонам, у якім пад покрывам хаваецца скарб.

— Заўтара нарэшце я даведаюся, што там такое, — сказала яна сабе. — Дый каб я захацела, я магла б даведацца пра гэта і сёння... бо ў гэтым покрыве такія дзіркі, што я магу спакойна прасунуць у іх некалькі пальцаў... а калі потым крыху пацягнуць... Ніхто ўсё роўна пра гэта не даведаецца... А пасля я трошкі пагляджу і папраўлю ўсё на месца... Заўтра ж гэта ўсё роўна будзе маё, дык чаму б мне не зірнуць ужо сёння?

Яна паглядзела вакол, але нікога не ўбачыла. І тады, абсалютна пра ўсё забыўшы: і пра добрага прынца, і пра небяспеку, якая яе чакала, — адчуваючы толькі пякучае жаданне задаволіць сваю цікаўнасць, яна прасунула пальцы ў дзірку і ціхенька пацягнула. Покрыва раптам разадралася з пачварным трэскам, і здзіўленая Разалі ўбачыла перад сабой цудоўнае дрэва, ствол у якога быў з караляў, а лісце са смарагдаў. Яно ўсё было абсыпанае пладамі, і кожны плод быў з суцэльнага каштоўнага каменя: дыяменту, рубіну, перлы, сапфіру, апалу, тапазу... — і ўсе яны пераліваліся рознымі колерамі. Такі бляск асляпіў Разалі. Але толькі яна паспела ўбачыць гэта чароўнае дрэва, як пачуўся яшчэ болей жудасны грукат. Разалі ачнулася ад свайго захаплення і адчула, як нейкая неадольная сіла падняла яе над зямлёй і панесла ў поле. Адтуль Разалі ўбачыла, як прынцаў палац абрынуўся, і з-пад абломкаў пачуліся страшныя стогны. Праз імгненне з руін выйшаў прынц. Ён быў увесь акрываўлены, у лахманах. Сумна зірнуўшы на Разалі, ён сказаў:

— Ах, Разалі, няўдзячная Разалі! Бачыш, што ты зрабіла са мной і з маім палацам! Цяпер, калі ты гэта ўтварыла, я не сумняваюся, што і трэці раз ты саступіш сваёй цікаўнасці і асудзіш на вялікае гора і мяне, і сябе, і свайго бацьку. Бывай, Разалі, і няхай пакаянне акупіць тваю няўдзячнасць да няшчаснага прынца, які цябе так кахаў і хацеў табе толькі дабра!

*(Працяг у наступным нумары)*

# З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ВЫШЫЎКІ

Старажытная вышыўка — від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у якім узор выконваецца ўручную іголкай на тканінах, скуры ці лямцы ільнянымі, ваўнянымі і ядвабнымі ніткамі. На тэрыторыі Беларусі вядомая таксама вышыўка бурштынам, шкляным бісерам і бронзавымі спіральнымі пранізкамі.

Вышыўка ўзнікла ў глыбокай старажытнасці і дасягнула высокага росквіту ў старажытныя часы, калі чырвонымі ваўнянымі ніткамі пачалі багата арнаментавацца ільняныя кашулі. Аб гэтым сведчаць раскопкі кургаоў у Пасожжы і на Віцебшчыне. Узоры былі ў выглядзе сімвалаў засеянага поля (квадрат ці ромб, падзелены на чатыры часткі, з кропкай у цэнтры кожнай клеткі) і іншых магічных знакаў.

Бісерам расшываліся галаўныя ўборы (вёскі Чарэя Чашніцкага, Вензаўшчына Шчучынскага раёнаў). Бронзавымі спіральнымі пранізкамі ў чатыры рады быў вышыты фрагмент адзення, знойдзены ў адным з кургаоў Рагачоўскага раёна. У кургане каля вёскі Нісімкавічы Чачэрскага раёна ў жаночым пахаванні знойдзена іголка, абвітая ніткамі і з нанізанымі бісернымі пацеркамі. Гэта пахаванне старажытнай майстрыхі-вышывальшчыцы.

Вышыўкай аздабляліся кашалькі, сумачкі, похвы, футаралы і асабліва абутак, дзе багата расшываўся нос чаравіка. Скураны абутак вышывалі ў асноўным ваўнянымі ніткамі чырвонага, сіняга, зялёнага і жоўтага колераў сцябельчатым швом. Паверхня геаметрычных фігур цалкам пакрывалася вышыўкай. Найбольш распаўсюджаным матывам на абутку была выява крыжа (знак урадлівасці).

Ядвабнымі і залатымі ніцямі вышывалі каўняры, манжэты і галаўныя ўборы багатых жанчын. Залатымі ніцямі быў упрыгожаны ядвабны каўнер, знойдзены ў кургане каля вёскі Лісна Верхнядзвінскага раёна. Асноўны ўзор складаецца з выяў птушак (у профіль) у крузе, якія чаргуюцца з прамавугольнымі чатырохканечнымі крыжыкамі. Матыў з выявамі птушак сустракаецца ў архітэктуры, на ювелірных вырабах і мініяцюрах рукапісаў XI—XII стагоддзяў.

ЛЮДМІЛА ДУЧЫЦ

Настаўнік вучню:

— Я з ахвотай паставіў бы табе адзінку, ды не маю права завышаць ацэнку.

* * *

— Куды ідзеш? — пытаюць у лежабокі.

— У паліклініку.

— Захварэў?

— Ага. Бакі штосьці баляць.

* * *

Адзін хлопчык не мыў вушэй. Нейкі стары не вытрымаў, сказаў яму:

— Няўжо табе не сорамна хадзіць з такімі вушамі?

— А што ж мне рабіць? Іншых жа ў мяне няма, — адказаў нямыцік.

* * *

— Колькі жывуць мышы? — спытаў настаўнік.

— Гэта залежыць ад кошак, — адказаў вучань.

* * *

Настаўнік пытаецца ў вучня:

— Чаму бывае кіслай глеба?

— Таму, што на ёй многа шчаўя расце, — адказвае той.

* * *

Настаўнік: Колькі будзе 2 і 5?

Вучань: Не ведаю.

Настаўнік: Ну вось я пакладу табе ў кішэню 5 злотых, а затым дабаўлю яшчэ 2 — колькі будзе?

Вучань: У мяне ў кішэні дзірка.

ЯСЕНЬ

*АНТОН БЯЛЕВІЧ*

**ЗАЛАТАЯ МЯЦЕЛІЦА**

Ціха сцелецца, сцелецца  
Ліст на ліст у гаях.  
Залатая мяцеліца  
Шалясціць на дубах.

Замяла рыжаватыя  
Верасы, паплавы.  
З песняю сумнаватаю  
Нада мной журавы.

Павуцінкаю ў просіні  
Праляталі, плылі.  
Ах, даспелае восені  
Ім шкада на зямлі.

Восень пахне атаваю,  
Прэсным лісцем бяроз.  
Восень з добраю славаю  
Заручыла свой лёс.

Расцягнула гармонікі —  
Іскры ў ярхіх мяхах,  
Аж на вілчыках конікі  
Б'юць у гонтавы дах;

Карагоду вясельнаму  
Круг шырокі дае,  
Завяршае арцельныя  
Восень справы свае,

Абыходзіць аселіцы,  
Сотні вуліц, двароў.  
Залатую мяцеліцу  
Асыпае з дубоў.

1 2 3 4 5 6

A B C D E F

## АДГАДАНКА

*Паглядзіце на вазонікі ў першай шафцы. Паставілі іх па пэўнаму прынцыпу. Ці ўжо ведаеце, якому? Падумайце цяпер: якія вазонікі перанесці з другой шафкі, каб паставіць на пустую паліцу.*

# СВЯТЫЯ ДЗЯДЫ, ПРЫХОДЗЬЦЕ СЮДЫ

*Працяг са стар. 1*

(зьмітраўскія, асяніны) „дзяды". Яны мелі і свае, народныя назвы (мясныя дзяды, тоўстая субота, наўскі вялікдзень, абед па радзіцелях і тд.)

Асаблівай пашанай карысталіся зьмітраўскія дзяды і радаўніца. Дзень, які папярэджваў дзядам насіў назву „бабы".

Падрыхтоўка да дзядоў працягвалася цэлы дзень. Мужчыны прыбіралі панадворак, жанчыны — хату, як перад прыходам дарагіх гасцей. Усё старанна чысцілі, бялілі сцены, працiралі іконы, завешвалі іх чыстымі ручнікамі, галінкамі хвоі, калінай. Усё гэта рабілася дзеля таго, каб душам, якія прыйдуць на вячэру, было чыста і каб паказаць продкам, наколькі дбала падтрымліваецца нашчадкамі парадак у гаспадарцы.

Пасля падрыхтоўчай працы людзі мыліся. Найчасцей усе разам ішлі ў супольную лазню. Гаварылі: „Трэба грэшнае цела абмыць, а потым і дзяды адбыць". У гэты дзень і дзяды атрымліваюць магчымасць памыцца.

Рэдка які абрад (таксама дзяды) абыходзіўся без старцаў. Ім аказвалі асаблівую пашану. Выключнае стаўленне да старцаў і жабракоў у народа падмацоўвалася спачуваннем беднасці. Старцы — гэта пасрэднікі паміж жывымі і мёртвымі і ахвяраванае беднаму ці галоднаму вернецца на другім свеце крэўнаму нябожчыку. Калі гаварыць пра стол на дзядах, то ў беднякоў ён быў амаль такі скромны. як і ў звычайныя дні. У заможных сем'ях калолі свінку, рэзалі цялушку ці авечку. Прэстыжным лічылася для гаспадыні выставіць найбольш мясных страў. Іх колькасць была падыктаваная звычаем: няпарная іх лічба ад 5 да 15 і болей. Стол на дзядах ахопліваў ледзь не ўсю нацыянальную кухню. Частаванне пачыналася з куцці (кашы з якіх-небудзь круп, запраўленых маслам і мёдам) або кануна (вады з мёдам з пакрышанымі ў ёй абаранкамі, булкай). Частаваліся адной ці трыма лыжкамі куцці з адной агульнай міскі, па чарзе перадаючы яе адзін аднаму. Бывала, што падавалі гарох з малаком і крупнік з грыбамі ці рыбай. Затым выстаўлялася кіслая капуста з ялавічынай, прэсны крупнік з курыцай (непарэзанай). Потым ішла юшка са свінінай (абавязкова з галавой), верашчака з каўбас і саланіны з падлівай. Былі таксама смажаная ялавічына, макароны, сыр у масле, кіслае малако. Каша з маслам ці салам была апошняй стравай гэтага святога вечара.

Дзяды — сямейнае свята. Яно вымагала ад усіх членаў сям'і прысутнічаць у гэты дзень у роднай хаце. Тыя, хто быў у дарозе, спяшаліся дадому. Пачыналі часцей за ўсё тады, калі сцямнела, і надыходзіў час асвятліць хату. Людзі апраналіся па-святочнаму, засцілалі стол белым абрусам. Гаспадар хаты запаліўшы свечку прымацоўваў яе каля ікон ці ставіў на стол і чытаў малітву. Душы продкаў ужо былі ў хаце і для іх на стол, пад стол, за акно, або ў спецыяльную міску, у самым пачатку адлівалася гарэлка і адкладвалася патрошку ад кожнай стравы.

Удзельнікі ўрачыстасці клікалі нябожчыкаў: „Праведныя радзіцелі! Зайдзіце да нас вячэраць! І самі, і вядзіце з сабой малых дзетак, і тых, каму не к каму ісці!", „Святыя дзяды, прыходзьце сюды, гэта для Вас! Ёсць тут усё, што Бог даў, чым толькі хата багата. Просім Вас: ляцiце да нас!" Потым гаспадар падымаў чарку, памінаў нябожчыкаў, жадаў жывым дачакаць наступных дзядоў. Далей чарка, калі яна была адзіная, перадавалася гаспадыні, а потым ішла па ўсіх і вярталася да гасападара. На застоллі маўчалі або ўспаміналі памерлых добрым словам і ніколі дрэнным! Сядзелі за сталом доўга. Калі апошняя смерць у хаце яшчэ балела свежай ранай, не абыходзіліся і без плачу. Галашэнне (плач) лічылася неад'емным атрыбутам дзядоў: „Нягодзе пакойнічкам, як тым старцам, кінуць па крошцы... Трэба паплакаць і пашкадаваць, то і яны нас не забудуць". Стол пакідалі для памерлых душ непрыбраным, а толькі засцілалі яго зверху абрусам.

Нярэдка моладзь не лічылася з суровымі правіламі бацькоў і цішком уночы даядала пакінутае дзядам. Потым гаспадыні цешыліся, што патрапілі дагадзіць пачастункам нябожчыкам. Можна было пачуць, як сялянкі скардзіліся, што дзяды ўночы былі вельмі наравістыя і вывернулі штосьці на стол у знак незадавальнення, не здагадваючыся, што непарадак на стале паявіліўся з дапамогай зямных сіл.

Рэшткі ад святкавання пакідалі старцам, хатнім птушкам і жывёле, сыпалі крохі на страху, у рэкі, калі там утапіўся хто-небудзь з родных.

Ужо ў XIX ст. сучаснікамі адзначалася распадзенне спрадвечных абрадаў, звязаных з дзядамі. Змяніўся час святкавання, выкрышыліся цаглінкі старажытнага сцэнарыя Святых Дзядоў...

**АЛЬЖБЕТА ТАМЧУК**



### Паважаны Чытач!

Хачу расказаць гісторыю аднаго інтэрв'ю.

Прыйшоў да мяне на працу сябра. Няшчасце ў тым, што ён — журналіст, так прынамсі ён мне тады прадставіўся, усім нам вядомага тыднёвіка „Ніва". Папрасіўся ўзяць у мяне інтэрв'ю. Што ж, дзесяць хвілін адарвацца ад працы кожнаму дазваляецца, ды ўсё ж сябра. Пагаварыў я крышачку яму ў мікрафон ды яшчэ болей без мікрафона. Пагутарылі пра жыццё, пра цяжкую нашу долю ды разышліся хто куды. Недзе пасля тыдня перадаюць мне тэкст нашай размовы да гэтак званай аўтарызацыі. Я чытаю і вачам не веру. З нашай размовы сябра мой напісаў не болей 30% ды і гэта павярхоўна. Каб толькі гэта — не было б бяды. Аляксандр Максімюк, бо пра яго ідзе гутарка, пальнуў дзве грубыя памылкі.

Першая — напісаў: „... няшмат бракавала, а Звяз беларускай моладзі пазбаўлены быў бы дзяржаўнай датацыі на сваю дзейнасць". Цікава мне, колькі паводле рэдактара Максімюка абазначае шмат, бо ЗБМ быў пазбаўлены датацыі ў 100%, значыць не атрымаў нічога. Ды „дыпламатычны скандал на лініі Варшава—Менск" быў не прычынаю, а толькі прэтэкстам да ўсяго гэтага. „Jak nie kijem, to pałką", — як гавораць.

Другая — напісаў: „... цяпер з'яўляецца ён (значыць — я) шэфам камп'ютэрнага аддзялення бельскай суполкі „Амега". Шэфам камп'ютэрнага аддзялення суполкі „Амега" з'яўляецца спадар Анатоль Швэд з Гайнаўкі, аб чым рэдактар Максімюк дасканала ведаў, пішучы гэты тэкст.

Аўтарызаваны тэкст у той жа дзень перадаў я ў рэдакцыю „Нівы". Недзе праз тры гадзіны пазваніў я папытаць рэдактара Максімюка, ці атрымаў ён свой тэкст, ці не. Рэакцыя яго была прыблізна такая: "Бодо, будзе скандал. Тэкст ужо ў друкарні і паправіць я яго не магу".

Вось як на маіх вачах рэдактар Максімюк перамяніўся ў літаратара Максімюка, бо вышэй згаданыя вытрымкі з ягонага інтэрв'ю толькі і літаратурнай фікцыяй назваць можна.

Плённай Табе працы на літаратурнай ніве, даражэнькі ўсё ж такі, Алік.

**БАГДАН СІМАНЕНКА**

**Ад аўтара:** Дадаваць да вышэйпададзенага тэксту шмат не буду. У Багдана Сіманенкі і Анатоля Швэда прашу прабачэння за дапушчаную мною памылку. Злой волі ў гэтым не было.

Што датычыць пераўтварэння рэдактара ў літаратара — рады старацца, каб застацца ўсё-такі пры журналістыцы.

За апошняе паўтары года ў тэме камп'ютэраў маёй фірме настолькі не шанцавала, што і так меў я ва ўсёй справе шмат шчасця ды не зрабіў, прыкладам, з самога Багдана Камп'ютэра.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**




# „АРТЫСТЫ З ПАГАРЭЛАГА ТЭАТРА"

Вартыя ўвагі і рэфлексій, на маю думку, два цікавыя артыкулы ў „Ніве" (41 н-р): „Чакаем наступных выбараў" Я. Мірановіча і „Чорт сваё, святар сваё" „Прысутнага". У гэтых тэкстах напісана праўда пра нас, беларусаў, паказаны наш плыткі і нецвярозы характар. Мы так заўсёды: або з ветрам, або насуперак ветру. Часта шкадуем таго, што нядаўна праклінаді. Вось: плач па „камуне". Польская камуна гэта не савецкая была! Сібір далёка, разумных у нас хіба ніхто не вёз у мяшку ў псіхабальніцу. „Прысутны" прыводзіць словы пажылых мужчын каля царквы. Вядома, Квасьнеўскі найлепшы, бо ён добры аратар. Вось! Любім слухаць гладкіх слоў! Я калісьці ў партыі наслухаўся і слоў, і апладысментаў. А калі хто не ўмеў пра праўду гладка выказацца, то з яго зрабілі дурня. І людзі з „Салідарнасці" навучыліся гладка ілгаць, і народ перастаў ім верыць. А я камуністам ніколі, ніколі не паверу! Хай яны і кажуць, што „гісторыя не вернецца". Шкада, што трох пажылых людзей (і шмат іншых) не паслухалі слоў святара, не хацелі ісці з нашымі, а пайшлі за „левымі". Я. Мірановіч у сваім артыкуле аналізуе вынікі выбараў, нашу псіхіку, і гісторыю дэмакратыі. Я памыліўся ў сваіх разважаннях п.з. „Зломаны венік", верыўшы ў тое, што калі згуртуемся ў адну партыю, ніхто нам не дасць рады, і выйграем. Гэта была, на жаль, ілюзія! Бо як жа ж! Калі дзяцей бацькі вучаць размаўляць толькі па-польску, то на каго тут наракаць?!

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# КУЛЬТУРА Ў НАРАЎЦЫ

Як мы ўжо інфармавалі, 9 кастрычніка бягучага года здалі ў карыстанне новапабудаваны Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы. У ім -- кіназала, кавярня і розныя майстэрні, між іншым для фоталюбіцеляў, юных рысавальшчыкаў. Гэтая культурная ўстанова займае плошчу ў 950 квадратных метраў. Знаходзіцца яна на тым самым месцы, на якім з 1938 па 1985 год быў Дом людовы, а ў ім кіно "Лес".

Дык вось у гэты кастрычніцкі вечар першым на сцэну ў нараўчанскім доме культуры выйшаў войт гміны Мікалай Павільч. Ён прывітаў гасцей і ўсіх прысутных. Увайшоў ён на сцэну, бо ў зале сабралася столькі людзей, што, як кажуць, была яна біткам набітая. Затым войт коратка расказаў гісторыю пабудовы, якая працягвалася крыху за пяць гадоў. Але ўсё ж аб'ект гатовы і трэба прыняць гасцей.

Прыехалі на адкрыццё прадстаўнікі культурнага руху з Беластока і Гайнаўкі. Ваяводскую ўправу прадстаўляла Марыя Шышко, працаўнік аддзела культуры. Яна зачытала ліст-пасланне беластоцкага ваяводы ды ўручыла войту падарунак -- вялікую электрычную лямпу. Затым намеснік дырэктара Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Барбара Пахольская адчытала ліст дырэктара ВААК Казімежа Дэркоўскага, у якім віншаваў ён нараўчан з заканчэннем пабудовы і жадаў плёну на культурнай ніве. Спадарыня Пахольская ўручыла яшчэ пяць алейных карцін (іх павесілі ў кавярні). На ўрачыстасць прыехаў таксама дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікалай Бушко. Ён зычыў поспехаў у культурнай дзейнасці харавым калектывам з Нараўкі і Старога Ляўкова. У падарунку ён прывёз вялікі гадзіннік, які з гэтай пары будзе адмерваць час культурных дасягненняў.

Адбылася багатая мастацкая частка. Выступілі школьныя калектывы з Нараўкі, кабарэ "Шпілька" з Беластока ды калектыў "Маланка" з Бельска-Падляшскага.

У той вечар нараўчанская кіназала не памясціла ўсіх гледачоў. Яны стаялі на калідоры і перад будынкам асяродка культуры. Было гэта як бы доказам таго, што вясковае насельніцтва патрабуе жывой культуры, а не толькі тэлевізійнай і відэакасетнай.

Сцены дома культуры ўпрыгожваюць карціны, фотагазета "Нараўчанскія краявіды" і каляровыя фотаздымкі "Залатой польскай восені ў Белавежскай пушчы".

Варта адзначыць, што ў Нараўчанскай гміне існуе дванаццаць вясковых святліцаў, у тым ліку пяць новых: у Гушчэвіне, Старым Ляўкове, Баб'яй Гары, Тарнопалі, Заблоччыне.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# V МІЖНАРОДНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ СЛАВІСТАЎ

Вышэйшая педагагічная школа ў Ольштыне арганізавала ў днях 7-9 кастрычніка г.г. навуковую канферэнцыю на тэму „Польска-ўсходнеславянскія культурныя, літаратурныя і моўныя сувязі". У канферэнцыі прымалі ўдзел вучоныя з Варшавы, Кракава, Вроцлава і Жэшава, а таксама замежныя навукоўцы з Масквы, Вільні, Пецярбурга і Калінінграда. Сярод дакладаў прысвечаных беларускай тэматыцы былі, між іншым, „Моўныя сувязі Мазоўша і Беларусі", „Роля палякаў у фармаванні сучаснай беларускай літаратурнай мовы", „Польскія запазычанні ў беларускай мове", „Паланізмы ў Бібліі Францыска Скарыны", „Беларуская народная творчасць у аповесцях Элізы Ажэшка", „Францішак Багушэвіч у польскім перакладзе" і іншыя. На канферэнцыі спаткаў я свайго земляка, прафесара Васіля Белаказовіча, ад якога атрымаў тры кнігі, прысвечаныя беларускай тэматыцы. Паказаў ён мне таксама „Ніву" ад 10 лістапада 1957 года, у якой быў змешчаны яго артыкул „Беларуская мова і польская" (ён тады часта пісаў у „Ніву"). Газета пажаўцела, але для прафесара В. Белаказовіча яна вельмі цэнная — беражэ ён яе і ганарыцца ёю.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# СВЯТЫ АПОСТАЛ І ЕВАНГЕЛІСТ ЛУКА



Святы Лука нарадзіўся ў сірыйскай Антыёхіі. Многія факты паказваюць на тое, што ён не быў яўрэем. Хаця б, напрыклад, ягонае імя — скарочаны варыянт лацінскага Лукан, ці Ліст ап. Паўла к Каласянам (4:10—14). Быў ён празелітам — язычнікам, які прыняў яўрэйскую рэлігію.

Лука быў вельмі адукаваным чалавекам, дакладна ведаў яўрэйскія законы і грэчаскую філасофію, быў таксама лекарам і жывапісцам.

Навуку Ісуса Хрыста чуў ён з вуснаў самога Збавіцеля, бо быў ён Апосталам у ліку сямідзесяці вучняў (Лук., 10: 1-24). Гэта, між іншым, яму з'явіўся Хрыстос пасля ўваскрэсення і здарылася гэта падчас ягонага падарожжа з Кляопам з Іерусаліма ў Емаўс (Лук., 24: 13—31).

Пасля Узнясення Збавіцеля Апостал Лука прабываў нейкі час у Іерусаліме, а потым падаўся ў Антыёхію. Затым спадарожнічаў Апосталу Паўлу ў яго місіянерскіх падарожжах, між іншым, у Рым, дзе не пакінуў яго ні падчас першага, ні падчас другога зняволенняў (2 Цім., 4: 10). Праўдападобна, быў ён сведкам пакутніцкай смерці Апостала Паўла. Пасля гэтага трагічнага здарэння вёў ён місіянерскую дзейнасць у Італіі, Далмацыі, Галіі і Грэцыі. Затым, ужо на старасці год, падаецца ў Лівію і Егіпет, а потым вяртаецца ў Грэцыю. Там, галоўным чынам у Беотыі, вядзе сваю місію, высвячаючы святароў і дыяканаў, лечачы хворых і калекіх.

**Евангелле ад Лукі** было напісана каля 62—63 гадоў пад уплывам Апостала Паўла. Яго галоўная тэма і мэта — паказаць, што Хрыстос прыйшоў як Збавіцель усіх людзей, усяго свету, а не толькі яўрэяў. Евангелле гэтае вылучаецца асаблівай дэталёвасцю часу і месца, а таксама прыгожым класічным стылем і чысцінёй грэчаскай мовы. Апостал Лука — таксама аўтар напісаных каля 64 года **Дзеяў Святых Апосталаў**, у якіх змешчана пачатковая гісторыя Царквы. Святая Традыцыя перадае, што Евангеліст Лука быў тым, хто напісаў першыя іконы Багародзіцы з Дзіцяткам Ісусам яшчэ пры Яе жыцці, даючы тым самым пачатак іканапісу.

Апостал Лука памёр пад канец І стагоддзя. Вядомыя дзве версіі смерці таго ж Евангеліста. Першая гаворыць, што памёр ён натуральнай смерцю ў старыя гады ў Афрыцы. Другая — больш папулярная — даказвае, што загінуў ён пакутніцкай смерцю ў Ахаі (Паўночны Пелапанес) каля 84 года. Павесілі яго мясцовыя язычнікі, з-за адсутнасці крыжа на аліўкавым дрэве.

**С. Н.**




## ЯШЧЭ АБ ЕВАНГЕЛЛІ

W „Niwie" nr 41 z dnia 10.10.1993 r., w artykule **„Ці Евангелле ад Мацвея было напісана на арамейскай мове"** Pan Szatyłowicz napisał: **„Гэта не Маскоўская Патрыярхія даказвае, што браты Хрыста могуць быць Яго дваюраднымі братамі, а толькі той, хто напісаў гэту зноску. Я ў Біблії Тысячагоддзя не абвінавачваў за зноску кардынала Вышынскага, які напісаў уступ да яе, а толькі тых, якія напісалі гэтую зноску"**. Panie Szatyłowicz, to jakieś wielkie nieporozumienie! Coś tu Pan przegalopował! Nigdy nie wspominałem o kardynale Wyszyńskim, dziwię się więc Pańskiemu usprawiedliwianiu się. Natomiast bardzo boleję nad Pańską ciętą wypowiedzią i o pozbawienie sławy dobrego imienia ś.p. o. Walentego Prokulskiego t.j. tego, kto jest autorem „tej znoski". Czy dlatego, że sam on nie może się bronić, wolno Panu szkalować i poniżać go? Skąd Pan wie, że o. Walenty Prokulski, żyjąc i pracując **„не вельмі чыстымі метадамі стараўся даказаць"**? Jako pokrzywdzonemu, należy mu się przeproszenie. Czy Pan to uczyni?

Stanął Pan przed wielką niewiadomą i nie wiedząc co dalej począć, napisał: **„Не ведаю, ці выдавецтва „Жизнь с Богом" у Брусселе верагоднае для праваслаўных"**. Jeżeli korzysta z tekstów Ewangelicznych Prześwietna **„Патриархия Московская"**, sądzę, że korzystają ze słów Ewangelii P.T. Prawosławni na całym świecie. Takie sformułowanie zdania **„не ведаю"**, to tłumaczenie chłopaka, który nie zrobił domowych zadań i chce usprawiedliwić się przed nauczycielem. Warto, Panie Szatyłowicz, wzbogacić wiedzę nawet książką wydaną w Brukseli!

Dnia 22.08.1993 r. w „Niwie" nr 34 napisał Pan artykuł, podając w wątpliwość pobyt św. Piotra w Rzymie. A przecież w dniu 11.07.1993 r. w artykule o św. Piotrze i Pawle, autor C. H. napisał: **„У набажэнстве гэтага дня Царква ўсхваляе іх як „прыяцеляў Хрыста", „нябесных давераных дарадчыкаў." (...) Абодва загінулі яны ў Рыме пры Нероне, праўдападобна між 64 і 69 гадамі"**. Oznaczałoby to, że nawet Prześwietna Cerkiew Prawosławna Białorusi też nie zgadza się z Pańską wypowiedzią.

Dnia 05.09.1993 r. w „Niwie" nr 36 w artykule **„Ці Ісус Хрыстос меў родных братоў па Маці"** napisał Pan takie zdanie: **„Я — праваслаўны, але гэта не значыць, што я не маю права на свой светапогляд на тэму многіх фактаў, якія прадстаўлены ў Евангеллі. (...) Для мяне не важна, ці Багамаці пасля нараджэння Ісуса мела са сваім мужам дзяцей, ці была незамужняй"**. Odpisał Panu na poruszony temat autor C. H. w artykule **„Яшчэ раз аб Апостальскім Саборы"**, broniąc czci i sławy Dziewicy Maryji.

Panie Szatyłowicz, trzeba czytać i porównywać artykuły. Zapomniał się Pan zupełnie, o czym świadczy Pański **cytat: „А марыйны культ у каталіцызме дайшоў ужо да карыкатуры, калі іконы Маткі Боскай атрымоўваюць кароны"**.

Dnia 12.09.1993 r. w artykule **„Сумны Спас Супрасльскай Божай Маці"** autorka artykułu Pani Ada Czeczuga ubolewa (każdy z nas podziela ten ból i współczuje z autorką), że dnia 18.08.1993 r. dowiedzieli się mnisi i wierni, że złodziejskie ręce zniesławiły cudowny obraz, ograbiając go z kosztowności od złota po zwykłe krzyżyki, które wierni czciciele Bogarodzicy ofiarowali za odebrane łaski. A przecież cudowny Obraz Matki Bożej Supraślskiej też był koronowany. Można go zobaczyć w tygodniku „Niwa", jest zdjęcie. Kto włożył te korony? Zapewnie ktoś upoważniony z hierarchii cerkiewnej.

Inaczej brzmią teksty Pańskie, gdy daje Pan odpowiedź współwyznawcom, zupełnie inaczej, gdy cokolwiek napisze katolik, wtedy odpowiedzi są ostre i czasem wręcz zaczepnie krzywdzące. Szkoda, ale i dziękuję Panu za to, bo ma Pan prawo wybierać to, na co ma Pan chęć. Do moich artykułów używa Pan podchodów „Szerszenia", wolno Panu. Dziś, kiedy jest wolność i demokracja, wolno każdemu pisać rzeczy dobre i wolno kpić, zniesławiać, wychwalać, poniżać począwszy od ludzi — do świętych i Boga. Ten artykuł jest ostatnim, nie będę Pana więcej niepokoił. Na zakończenie chcę dedykować wiersz Asnyka. Warto go przeczytać i trochę pomyśleć.

Siedzi ptaszek na drzewie
I ludziom się dziwuje,
Bo najmędrszy z nich nie wie,
Gdzie się szczęście znajduje.

Bo szukają dokoła
Tam, gdzie nigdy nie bywa.
Pot zalewa im czoła
Cierń im stopy rozrywa.

W nienawiści i kłótni
Wydzierają coś sobie,
Potem biedni i smutni
Idą przespać się w grobie.

I tak siedząc na drzewie
Ptaszek dziwi się bardzo.
Chciałby przestrzec ich śpiewem,
Lecz przestrogą pogardzą.

**Br. BRONISŁAW KAWECKI, ofm**

## ДЗЯКУЮ Д. ШАТЫЛОВІЧУ

Дзмітрый Шатыловіч сваімі артыкуламі на рэлігійныя тэмы папаўняе нашы веды аб гісторыі чатырох Евангелляў, дае вельмі цікавыя навуковыя аналізы і разважанні. Вельмі зацікавіў мяне артыкул „Ці Евангелле ад Мацвея было напісана на арамейскай мове" (41 н-р) і інфармацыя пра абсяг распаўсюджання грэчаскай мовы. Д. Шатыловіч параўноўвае Евангеллі і інфармацыі ў іх, у тым і пра Марыю, Матку Хрыста, якія сталі падставай розных інтэрпрэтацый і спрэчак. Не нам судзіць. Наш доўг — верыць у кожнае Евангелле, бо гэта Божая Кніга і залатая скарбніца нашых душ. Верыць трэба ад сэрца ў цэлую Кнігу, Біблію. „Хто веруе ў Сына, мае жыццё вечнае, а хто ў Сына не веруе, не ўбачыць жыцця, але гнеў Божы будзе на ім" (паводле Іаана р. 3,36). Мы — грэшнікі, і таму Евангелле павінна быць нашым пастаянным прыстанішчам і настаўнікам нашых душ і сэрцаў.

Вельмі дзякую Д. Шатыловічу за гістарычныя разважанні ў „Ніве" наконт Святога Пісання і далёкі, але блізкі сэрцу час.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# ЦІ ДОГМАТ, ГЭТА ВЕРА Ў АГУЛЬНАПРЫНЯТУЮ ПРАЎДУ, АБ'ЯЎЛЕНУЮ БОГАМ?

У „Ніве" н-р 40 у адгалосцы „Каментарый да каментарыя" напісана: „Догмат (гр. догма) гэта вера ў агульнапрынятую праўду, аб'яўленую Богам, якая неабходная для атрымання збаўлення". Я б нічога не пісаў, каб не была прыменена слова: „Богам". Ці ўсе догмы, якія выйшлі з-пад пяра тэолагаў розных веравызнанняў былі „аб'яўлены Богам"? Многія яны супярэчаць адна адной. На працягу амаль двух тысячагоддзяў паўстала многа догм, якія зацвярджаліся адным саборам, а пасля абвяргаліся другім. Многія догмы былі зацверджаныя па загаду імператараў, а многія пад уплывам язычаскіх культаў. Александрыйская царква прызнае догму аб адной боскай натуры Хрыста, а праваслаўная і каталіцкая — аб дзвюх. Нестараўская царква верыць у догму аб дзвюх асобах у Хрысце, а іншыя — аб адной. Ці ўсё гэта было „аб'яўлена Богам"? Ці аўтар верыць у догму, што рымскі папа не памыляецца ў справах веры? Я не магу прызнаць догмы нязгоднай з Евангеллем (хаця між рознымі Евангеллямі ёсць супярэчнасці), бо Евангеллі былі напісаны намнога раней, чым паўсталі ўсякія царкоўныя догматы. Ні ў св. Марка, ні ў св. Іаана няма тэзіса аб нараджэнні Ісуса ад дзевы. Не ўспамінае аб гэтым ап. Павел, а ён сустракаўся з апосталамі, якія ведалі сям'ю Ісуса. У Евангеллі ад Лукі гаворыцца ў двух месцах аб нараджэнні Ісуса дзевай Марыяй (1:27 і 25). У другім месцы напісана, што Язэп пайшоў з Назарэта ў Віфліем, каб запісаць у перапісе насельніцтва сябе і Марыю — „заручаную з ім жонкаю, якая была цяжарнай". Святы Лука даказвае, што Язэп быў з роду цара Давіда і таму пайшоў амаль 100 км (а тады не было аўтобусаў) у Віфліем з цяжарнаю Марыяй на перапіс насельніцтва і там нарадзіўся Хрыстос, бо яўрэі верылі, што іх месія можа нарадзіцца толькі ў Віфліеме. Аднак Хрыстос паводле св. Лукі не быў сынам Язэпа, а таму Хрыстос не мог быць патомкам Давіда. І тут аўтар Евангелля запутаўся. Перапісу насельніцтва, аб якім піша св. Лука, у тым часе, калі нарадзіўся Хрыстос, гісторыя не ведае, а перапіс Квірынія, які выклікаў паўстанне зелотаў, быў 10 год пасля смерці цара Ірада. У Евангеллі ад Іаана не пішацца ні аб нараджэнні Хрыста дзевай, ні аб тым, што ён паходзіў з дому Давіда. Паводле Іаана, Хрыстос з'яўляецца сынам Язэпа і мае галілейскае паходжанне, г. зн. што ён нарадзіўся ў Назарэце, а не ў Віфліеме. (1:45, 7:41; 7:52). У Евангеллі ад Мацвея тэзіс аб нараджэнні Ісуса дзевай прадстаўлены інакш, чым у Лукі. Паводле яго Язэп і Марыя жылі ў Віфліеме, калі нарадзіўся Ісус. Але ён таксама даказвае, што Язэп паходзіў з роду Давіда, але радаслоўная ў яго іншая, чым у Лукі. Св. Мацвей прыводзіць прароцтва Ісаі: „Вось Дзева ў чэраве зачне і народзіць сына і дадуць яму імя Імануіл". Св. Мацвей апіраўся на грэчаскім перакладзе прароцтва Ісаі. Гэта доказ, што Евангелле ад Мацвея было адразу напісана па грэчаскай мове, а не на арамейскай ці стараяўрэйскай. А перакладчык прарока Ісаі пераклаў стараяўрэйскае слова „альмах" грэчаскім словам „партхенос", якое азначае дзеву, а „альмах" — не толькі маладую жанчыну, але можа абазначаць таксама маладую замужнюю жанчыну. Прарок Ісая браў хіба пад увагу другую сітуацыю, згодную з верай яўрэяў. Толькі ў Евангеллях ад Мацвея і Лукі напісана, што Марыя радзіла Ісуса будучы дзевай, але, як я ўжо даказваў, пасля нараджэння Хрыста была нармальнай жонкай Язэпа і радзіла яму дзяцей. Мець дзяцей пасля нараджэння Ісуса не з'яўляецца чымсьці заганным для Марыі. Гэта язычнікі толькі так трактавалі сваіх багоў і менавіта багіню Артэміду цанілі за яе дзявоцтва.

Фантазіяй, на маю думку, з'яўляецца сцвярджэнне, што ў кнізе Песні Песень Саламона пішацца аб Багародзіцы. Гэта шэдэўр старажытнай любоўнай лірыкі і не мае ён нічога супольнага з Марыяй і Ісусам. Такім чынам можна прыпісаць многія старажытныя вершы і песні, якія хваляць нейкую жанчыну, Багародзіцы. Каліcь Авідый, рымскі паэт, выдаў зборнік эратычнай паэзіі „Масвацтва кахання" (Ars amandi), за які быццам цэзар Аўгуст выгнаў яго з Рыма. У 1497 г. нейкі парыжскі манах выдаў „Мастацтва кахання" Авідыя і прысвяціў яго Святой Дзеве Марыі, дзе сцвярджаў, што Авідый любоўныя вершы пісаў для Яе.

У 1950 годзе папа Пій ХІІ пракламаваў догмат Узяцця да неба цела Марыі. Не мог ён, аднак, знайсці ніякіх пісьмовых крыніц, акрамя апокрыфаў. Шукалі ў Евангеллях і не маглі знайсці. І знайшлі ў „Адкрыцці" св. Іаана Багаслова (12:1). Гэты сціх стаў падставай для новай догмы. Гучыць ён так: „І з'явіўся на небе вялікі знак: жанчына пакрытая (адзетая) сонцам; пад яе нагамі месяц, а на галаве яе вянок з дванаццаці зорак. Яна была цяжарная і крычала ад болю і мук нараджэння". Як бачым: хто хоча нешта знайсці, той знойдзе.

Я думаю, што на гэтым спыню тэалагічныя дыскусіі на старонках „Нівы" на тэму дзявоцтва Марыі.

**ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ**

# НАРОД БАЧЫЦЬ УСЁ!

Дзесятага кастрычніка г.г. Уладзіслаў Праховіч яшчэ раз вырашыў вярнуцца да мінулых выбараў у Сейм і Сенат Рэчыпаспалітай і на хвалях Беластоцкага радыё правёў гутарку на гэтую тэму з бельскім артыстам.

Рускія ў такіх выпадках гавораць, што "после боя кулаками не машут". Але мы не рускія, і малайчына Праховіч за тое, што дазваляе слухачам яшчэ раз даведацца аб нашых кандыдатах у дэпутаты ў парламент Anno Domini 1993.

Мы плебеі, а тыя заўсёды ведаюць, як усюсенька зрабіць, але калі ўжо запозна. Мы, як тыя гусакі, якія хочуць кагосьці дзеўбануць балюча ў нагу, а толькі часам удасца ім дзюбаю пацягнуць за нагавіцы і дастаць узамен нагою. Дастаўшы па мазгаўні, бяжымо з выцягнутай шыяй да свайго статка і на ўсю вёску гергечам: "Пабачце, які я герой, -- не даўся злапаць за хвост і бразнуць сабой аб зямлю!!!"

Размоўца Праховіча сказаў з жалем, што паміж свядомасцю беларусаў і немцаў -- адлегласць прынамсі на сто гадоў. Гэта праўда. Але яшчэ трэба дабавіць і тое, што ў немцаў зусім іншая ментальнасць і, на жаль, іншая культура сужыцця. Немцы больш згуртаваныя і дружныя. А што найважнейшае -- немцы не шукаюць прычын і спосабаў, каб аднаго жыхара той жа зямлі нацкаваць на другога, каб разбіць еднасць народа, калі ў нас толькі аб гэтым і думаюць. Не скрывайма: мы любім толькі сябе і тых, хто ад нас вельмі далёка, а не любім ніякіх суседзяў. Прыкладам таго, што мы больш цэнім далёкіх, няхай будуць нашыя сужонствы. Мы возьмем чорт ведае каго, абы толькі з Варшавы ці з Вроцлава, не заўсёды звяртаючы ўвагу на прыгажунь у беларускіх ці наогул праваслаўных вёсках.

А ці ж мы не гаруем, пабачыўшы, што хтосьці жыве лепш за нас? А ці ж не цешымся, калі нехта жыве горш? Гэта ж бачна ўсюды, як на далоні. Як гэта: чаму ён, а не я?! А калі гаварыць аб агітацыі народу, каб пераканаць яго да нас, дык схаваймася! Мы не ўмеем падыходзіць да людзей шчыра, а хутчэй загаворваем зубы, расказваючы ім нейкія сенсацыі, для апладысментаў. А людзі гэта бачаць і ацэньваюць. I трэба сказаць, што наш народ умее глядзець на прамоўцаў і вызначаць іх вартасць.

Мне прыпомнілася адна з аўтарскіх сустрэч у адной з беларускіх школаў. Калі я ўжо закончыў сваю прамову і вучні перасталі задаваць мне пытанні, тады голас узяў дырэктар суседняй школы. Узяў ён маю "Пожню" ў рукі, падняў яе ўверх, каб вучні бачылі і ні з таго, ні з сяго давай гаварыць аб выдатным мастаку Лёніку Тарасэвічу. Я не хацеў, каб ён абавязкова яе, маю кніжку, хваліў, няхай сабе ён яе і ганіў бы, але каб гаварыў аб ёй і пра мяне на сустрэчы са мною. А ён нічога, толькі хваліў Лёніка. Ці ж ён думаў, што мяне гэтым дыскрэдытуе? Ліцэісты пасля здзіўляліся ягонай балбатні і смяяліся, а я ў іх вачах выйшаў на зусім нармальнага, бо нічога не стараўся перад імі скрываць.

Паважаныя будучыя кандыдаты ў дэпутаты, не мне вас вучыць, але ведайце, што агітаваць за сабою трэба ўмець! Не хопіць толькі заехаць недзе прыгожа апранутым, і ўсё! Шмат польскага народу паверыла псеўдаагітатарам у 1989 годзе, якія абяцалі кожнаму з нас па горбе долараў, і што? Я, бачачы гэты фарс, напісаў фельетон "Верталёты на лом", каб крыху ахаладзіць авечы бег да салідарніцкіх урнаў. Але рэдакцыя таксама паверыла ім і яго не надрукавала. Я не плакаў і з гэтае прычыны плакаць не буду, што не пусцілі ў друк мой тэкст. Але сумую і буду сумаваць, калі мы не перастанем біцца паміж сабою за чужыя справы. А не перастанем, бо камусьці на гэтым залежыць, каб нас пасварыць і хутчэй асіміляваць. З гэтай мэтай нехта паспрабуе даць яшчэ больш грашавых сродкаў і актывізаваць адданых сабе выбраных людзей з гэтак званымі "аўтарытэтамі", каб нас нам згідзіць, а мы ўжо даўно ўмеем сваё знішчаць.

Давайце, браткі, будзем цаніць адзін аднаго, як чалавек чалавека. Пабачыце, як нам будзе добра і ніхто з нас не будзе саромецца сваёй мовы і свайго паходжання. Я асабіста заўсёды баяўся польскіх "белых рукавічак".

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

# ТУРЫЗМ НА ПАВАРОЦЕ

У многіх краінах неблагой крыніцай дастатку з'яўляецца турызм. Сусветныя прагнозы прадбачваюць, што да 2000 года стане ён найбольш даходнай галінай чалавечай дзейнасці.

Калі чатыры гады таму ў нашай краіне спрацавалі рыначныя механізмы, ахапілі яны і турызм: паявілася канкурэнцыя, а ў выніку — рост атэльнага будаўніцтва. Дынамічна павялічылася колькасць прыездаў замежных турыстаў, а за тым і даходы. У 1990 годзе нашу краіну адведала 18 мільёнаў замежных гасцей, якія пакінулі 1 мільярд долараў. Два гады пазней 49 мільёнаў чужаземцаў прывезлі ў нашу краіну 4 мільярды долараў. На падставе аналізу сёлетніх прыездаў ацэньваецца, што ў бягучым годзе Польшчу наведала каля 50 мільёнаў турыстаў. Абазначае гэта прыпыненне росту турызму. Прычынай гэтаму, паводле ваяводскіх улад у Ольштыне, з'яўляецца рэцэсія ў краінах, адкуль прыязджала найбольш турыстаў. Да гэтага дайшлі і хадайнічанні нашых улад за экалагічнай дапамогай, якія перабольшваюць знішчэнне прыроды: вады, зямлі і паветра. Неабыякавы для чужаземцаў і стан бяспекі ў Польшчы. Яны баяцца разбояў і пакражаў. Турыстычны сезон у нас кароткі і нямнога рабілася ў напрамку яго прадаўжэння. Адыгрывае тут ролю і тое, што галоўнай нашай славутасцю з'яўляецца прырода, якою можна карыстацца толькі ў добрае надвор'е. Формы правядзення вольнага часу (атракцыёны), якія адпавядалі б замежным турыстам, яшчэ ў нас адсутнічаюць. Наогул знімалі яны памяшканні з элементарнымі выгадамі, адказваючыся ад харчавання. Кватараваліся часта ў дамах адпачынку розных прадпрыемстваў; кемпінгамі, палаткавымі палеткамі і школьнымі турбазамі карысталіся зрэдку. Менш прыязджае ў апошні час немцаў, ваяжы якіх мелі найчасцей сентыментальны характар; болей было затое сапраўдных турыстаў з Францыі, Галандыі і Скандынавіі, якія пасля нядоўгай затрымкі ехалі далей.

Новая сітуацыя патрабуе новых рашэнняў: экстэнсіўная разбудова турыстычнай базы завяршаецца. Прыходзіць час якасных перамен і актывізацыі турыстычнай дзейнасці шляхам прамоцыі. У Ольштынскім рэгіёне прамоцыя праводзіцца ўжо тры гады ў форме ўдзелу ў міжнародных кірмашах у Берліне, Познані, Варшаве і ў самім Ольштыне.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК,**
**Ольштын**

<u>З жыцця людаедаў</u>

# НЕЗНІШЧАЛЬНЫ ІДАЛ... ІДЭАЛ

Прыйшоў я калісьці першы раз на працу. Ах, было гэта ўжо так даўно... Быў я тады яшчэ зусім малады, "зялёны" -- пачціўы, нявінны... Не курыў я тады цыгарэт, гарэлкі нават не нюхаў. Захапіў мяне адзін з нашых старэйшых супрацоўнікаў -- мужчына сталага ўзросту, вельмі разважлівы, прынцыповы, удумлівы, несумненна разумны, незвычайна працавіты і таленавіты. Працавалі мы ў адным пакоі. Спадар Ф. заўсёды цікавіўся маімі поспехамі і праблемамі, даваў мне здаровыя і вельмі карысныя парады. Быў, можна сказаць, маім праваднікам і бацькам на новай і хісткай дарозе жыцця. Падабалася мне яго палітычная прынцыповасць, хаця яго погляды разыходзіліся з маімі вельмі моцна. Я тады быў, так сказаць, утапістам і ідэалістам, агульна кажучы, "царства нябеснага людзей добрай волі", а ён, -- вопытным практыкам і стратэгам новай, светлай будучыні пад правадніцтвам Сілы Народа.

Працаваць з намі пачаў малады хлапец, улюбёнец спадара Ф., дарэчы, з ягонага паручэння. Хлапец быў, як і я, зялёны, але не быў такім, як я ў той час, даволі пасіўным назіральнікам рэчаіснасці, але браўся з гэтай рэчаіснасцю зуб за зуб. Паколькі наш супрацоўнік пачаў "ставаць акунём" і да свайго апекуна, праз няпоўны год вылецеў з працы на пабітую морду. Я не заўважыў ніякіх заган у яго працы ці паводзінах, але спадар Ф. пастараўся выставіць малакасосу ў асяроддзі "воўчы білет".

Я пачаў пільней прыглядацца метадам спадара Ф. Гэта была рознай масці зласлівасць, інтрыгі, здрада, нескрыванае хамства, нахабства ў жывыя вочы. Вядома, якой прыкрасцю для мяне было абвяржэнне ў маіх вачах майго ідала. Аднойчы спытаў ён у мяне сваім аксамітным барытонам: "Мілы Агафоне, што ж вы пра мяне думаеце?" "Здаецца мне, што вы людзей занадта не любіце" -- адказаў я спакойна. "Ат, каб я іх любіў, на галаву залезлі б мне, знішчылі б!"

I праўда, меў ён рацыю. А так незнішчальны спадар Ф. змог хутка памяняць на 180 градусаў свае погляды і далей ёсць настаўнікам нявіннай, шчырай, веруючай у праўду і справядлівасць моладзі, якая, пакуль што няўпэўнена, ступае на гразкую дарогу сучаснага жыцця.

**АГАФОН БУЯЎКА**




ЧАСТКА XVII

# ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

Сёння прапаную чытачам вытрымкі з размовы, якую я правёў з дзвюма дзяўчатамі і двума хлопцамі. Маім размоўцам было прыблізна па семнаццаць-васемнаццаць гадоў. Усе яны падкрэслівалі, што палітыкай не цікавяцца, „бо не хочуць прымаць удзелу ў ілгунстве і падмане”. Маладыя людзі размаўлялі са мной па-руску і ўсе яны дэкларавалі сваю прыналежнасць да беларускай нацыі. Для большай выразнасці дзяўчат акрэслім літарамі А., Б., а хлопцаў — В., Г. — першымі літарамі алфавіта. Зробім гэта таму, што прозвішчаў сваіх размоўцаў я не ведаю, а таксама таму, што ў сваіх публікацыях я намерана і паслядоўна не карыстаюся прозвішчамі, бо такая воля выказвалася большасцю маіх субяседнікаў. Пяройдзем да выказванняў:

А: „Я там палітыкай не цікаўлюся. Зразумела, ведаю, што няма ўжо Савецкага Саюза і што яго развалілі Гарбачоў і Ельцын. Мае бацькі да сёння трымаюць у шафе савецкія сцягі і гавораць, што Савецкі Саюз яшчэ вернецца. Я сама думаю, што гэтага ўжо не будзе. Аб ваенным саюзе Беларусі з Расіяй я чула. Якраз аб гэтым гаварылі некалькі разоў мае бацькі. Яны за тым, каб такі саюз існаваў і гавораць, што не толькі не будзе нічога дрэннага, калі ў Беларусі будуць рускія войскі, але наадварот — гэта забяспечыць Беларусі мір. Праўда, пабойваюцца, каб беларускіх хлопцаў не пасылалі ў розныя там Афганістаны ці Карабахі. Ну, а мне то здаецца, што Беларусь павінна быць такой краінай, аб якой я чытала, што яна ўвогуле не мае арміі. Навошта нам армія і нейкія там вайсковыя саюзы”.

Б: „Я на гэту справу гляджу крыху па-іншаму. Я вельмі люблю мундзіры, вайсковыя аркестры і вайсковыя парады. Калі нешта такое бачу, маё сэрца пачынае трапятацца. Што датычыцца вайсковага саюза Беларусі з Расіяй, то я не ведаю, ці гэта для нас добра, ці дрэнна. Па-мойму, ад вякоў былі арміі і былі войны. Калі так было ў мінулым, дык напэўна так будзе і ў будучым, і калі так, дык Беларусь павінна мець вайсковых саюзнікаў. Усім нам вядома, што найбліжэйшым для нас народам ёсць рускія. Мы не павінны баяцца рускіх, калі мы самі паўрускія”.

В: „Я не згаджаюся з Б. Ніякія мы паўрускія. Мы незалежная нацыя, толькі нас акалечылі. Мне васемнаццаць гадоў, а я не ўмею размаўляць па-беларуску. Ці ж гэта не калецтва? А хто вінаваты? Мы ж не самі дабравольна пакінулі сваю мову і сваю нацыянальную свядомасць. Сталася гэта пад націскам так званага старэйшага брата. Прызнаюся, баюся ваеннага саюза з Расіяй. Мяне хутка паклічуць у армію і калі гэты саюз будзе дзейнічаць, дык могуць мяне пагнаць у Карабах, Абхазію ці Малдову. Або недзе ў іншае месца, дзе ўзнікне канфлікт. А навошта мне гэта? Я хацеў бы служыць толькі ў Беларусі, а не на Камчатцы. Я не супраць ваеннага саюза з Расіяй, але толькі тады, калі будзе ў ім сказана, што беларускі салдат не можа быць пасланы ў іншыя рэгіёны былога Савецкага Саюза, і што руская армія не будзе шастаць па беларускай зямлі. А такі ваенны саюз павінен дзейнічаць толькі тады, калі нехта нападзе на Беларусь”.

Г: „У гэтым, што гаворыць В., няма логікі. Значыць, паводле цябе павінна быць так, калі хто будзе атакаваць Беларусь, дык руская армія павінна прыехаць і бараніць нас, а калі будуць пад пагрозай інтарэсы Расіі, тады Беларусь павінна захоўвацца нейтральна і не слаць у запальныя пункты сваіх салдат? Дык скажы, які дурань будзе з намі заключаць такія ваенныя саюзы? З іх Расія не будзе мець ніякай карысці. А ўсякі справядлівы трактат, пакт ці саюз павінен даваць карысць абодвум бакам. Я не баюся Расіі і мне здаецца, што паміж Беларуссю і Расіяй павінна быць самае цеснае супрацоўніцтва, у тым ліку і вайсковае. Мы ніколі не зможам стаць Швейцарыяй, нам на гэта не дазволіць геаграфічнае размяшчэнне. Мусім выбраць такіх ці іншых партнёраў, і для мяне такім надзейным партнёрам з'яўляецца Расія. Гэта не значыць, што я хачу, каб мяне везлі на Сахалін ці ў Карабах, аднак нейкія ахвяры з абодвух бакоў мусяць быць. Мы жывем не на Месяцы, а толькі ў цэнтры Еўропы”.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 1 ЛІСТАПАДА

7.50 Пад купалам Сусвету. 8.00 „Фарбы зямлі роднай". Дак. фільм. 8.10 „Музыка дажджу". Фільм-канцэрт. 8.50 Урокі здароўя. 9.10 Народны ансамбль песні і танца „Нёман". 10.15 „Той самы Мюнхаўзен". Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі. 12.35 Вызваленне: 1943—1993. Касцюковічы. 13.05 Відэааўтограф. Інфармацыйна-забаўляльная праграма. 13.20 Бар'еры. Франкфурцкі міжнародны марафон. 13.50 Кампазітары Беларусі. „Сын зямлі беларускай". Р.Р. Шырма. 14.35 Існасць. Духоўна-рэлігійная праграма. 15.25 Шоў-праграма з удзелам Ю. Антонава. 16.30 Адкрыццё вечароў расейскага тэлефільма. 16.55 Праграма студыі „Іркуцктэлефільм". 18.15 Хакей. Чэмпіянат МХЛ. У перапынку (18.55) — Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.45 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Фенікс". Маст. фільм. 2-я серыя. 22.10 Відэааўтограф. Інфармацыйна-забаўляльная праграма. 22.25 „Свая бацькаўшчына". Да 60-годдзя пісьменніка В. Адамчыка.

### АЎТОРАК, 2 ЛІСТАПАДА

7.05 Пад купалам Сусвету. 7.15 „Адраджэнне". Дакументальны фільм студыі „Летапіс". „З воўчым білетам". 7.40 Тэлевізійная дошка аб'яў. 7.45 „Канец бабінага лета". Маст. фільм. 9.10 Кола дзён. „Дзяды". 9.40 „Фенікс". Маст. фільм. 2-я серыя. 10.40 Канцэрт хору імя Г. Цітовіча. 12.30 „Наш браняпоезд". Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі. 15.00 Шматгалоссе. Народы Беларусі: іх культура, гісторыя, традыцыі. 15.50 „Запіскі пірата". Мультфільм. 16.00 Студыя „Тэлесябрына". Дзень памяці („Дзяды"). 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.40 „Фантазія". Фільм-канцэрт. 22.00 Праграма студыі „Новасібірсктэлефільм".

### СЕРАДА, 3 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 Песні З. Яўтуховіча для дзяцей. 8.35 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 9.30 „Таямнічы свет каралаў", „Запаведнае сумленне краіны". Дак. Фільмы. 10.10 „Крылы". Маст. фільм. 11.35 Кампазітары Беларусі. А. Елісеенкаў. 12.30 Навіны. 12.40 „Ізноў музыка". Фільм-канцэрт. 13.20 „Бераг яго жыцця". Маст. фільм. 1-я серыя. 14.25 Для школьнікаў. Ці любіце вы тэатр? 15.25 „Нов і К" — топ-10. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 „Уся справа ў капелюшы". Мультфільм. 16.55 Спасціжэнне ісціны. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гомель). 18.10 „Пяць зорак". Тэлегульня. 19.10 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Стоп-кадр". Крымінальная хроніка. 21.05 „Па мянушцы „Звер". Маст. фільм. 22.35 НіКа. 22.50 Праграма студыі „Саратаўтэлефільм".

### ЧАЦВЕР, 4 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Клоўн з восенню ў сэрцы". Тэлефільм. 8.20 „Анатоль Салаўяненка на сцэне і па-за сцэнай". Фільм-канцэрт. 9.10 Аўгустоўскі канал — водны шлях ад Віслы да Нёмана. 9.40 Кампазітары Беларусі. Л. Шлег. 10.25 „Не плачце па мне". Дак. фільм. 11.10 „Пяць зорак". Тэлегульня. 12.10 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 12.30 Навіны. 12.40 „Перыкола". Музычны фільм паводле аперэты Ж. Офенбаха. 14.00 „Звычайная небяспечная прыгода". Мультфільм. 14.10 „Бераг яго жыцця". Маст. фільм. 2-я серыя. 15.15 Тэлебіржа. 15.25 Відзьманявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыё. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 Праграма студыі „Донтэлефільм". 17.20 Зачытайце маё пісьмо... 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гродна). 18.10 Здароўе. 18.40 Працяг праграмы студыі „Донтэлефільм". 19.25 „Польшча-93". Рэпартаж з прэс-канферэнцыі, прысвечанай адкрыццю выстаўкі. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.45 „Крок" прадстаўляе праграмы „Маветон", „Правінцыя".

### ПЯТНІЦА, 5 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Танга. Танга". Фільм-канцэрт. 7.55 Тэлевізійная дошка аб'яў. 8.00 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 8.55 Год з жыцця „Песняроў". 10.00 „Сцежкамі запаведнымі". Дак. фільм. 10.25 „Спартыўны стыль". Футбол. 11.05 „Праект „Альфа". Маст. фільм. 12.30 Навіны. 12.40 „Будзеш біцца". Дак. фільм. 13.50 „Бераг яго жыцця". Фільм. 3-я серыя. 14.55 Педагагічны экран. Гісторыя ў школе. Задачы і перспектывы. 15.35 „ПіК". Відэаканал для падлеткаў. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 Навошта дадзена ўлада? Праблемы мясцовага самакіравання. г. Крупкі. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Творчы вечар народнага артыста Беларусі Віктара Вуячыча. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Піраты XX стагоддзя". Маст. фільм. 22.15 НіКа. 22.30 Працяг вечара народнага артыста Беларусі Віктара Вуячыча.

### СУБОТА, 6 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Піраты XX стагоддзя". Маст. фільм. 9.00 Паказвае Гомель. 10.00 Тыдзень планеты. Міжнародны агляд. 10.10 Па пісьмах тэлегледачоў. 10.30 „Надзея-экспрэс-2". Акцыя амерыканскай гуманітарнай арганізацыі „Сіці хоўп інтэрнэйшнл". 11.50 Аб беларускай металургіі... — размова з прафесарам У. І Цімашпольскім. 12.20 „Мой маленькі поні". Мультфільм. (2-я серыя). 12.45 Іграе сімфанічны аркестр Беларускай акадэміі музыкі. 14.25 ТА „Рэха". Прыватызацыя і мы. 15.05 Праграма студыі „Лентэлефільм". 16.20 Працістаянне. Маральна-прававая праграма. 17.20 Трэці тайм. Футбольны агляд. 18.05 Роднае слова. Тэлечасопіс. 18.40 „Нов і К" — топ-10. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.50 „Лэдзі знікае". Маст. фільм (Вялікабрытанія). 22.20 НіКа. 22.35 „Рок-архіў". Р. Плант — чалавек з дырыжабля.

### НЯДЗЕЛЯ, 7 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 Слова да чалавека. Звяртаецца прапаведнік Рык Рэнер. 7.55 „Па мянушцы „Звер". Маст. фільм. 9.25 Якія мы гаспадары. Бярозаўскі шклозавод „Нёман". 9.55 Для дзяцей. „Свой садочак, як вяночак...". 10.25 Клуб „Гаў-гаў". 10.40 Тэлебом. Лаўрэаты шоў-конкурсу. 11.20 „Скарб-93". Фестываль талентаў. 12.20 Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі запрашае... 13.05 Кінаэкран-93. Лістапад. 14.20 Таямніца. Праграма для сям'і. 14.50 „Прыгоды капітана Урунгеля". Мультфільм. 6-я серыя. 15.05 „Нялёгка з мужчынамі". Маст. фільм (Югаславія). 16.25 „Гінес-шоў" (Вялікабрытанія — ЗША). Частка 2-я. 16.55 Дак. фільм пра творчасць мастака А. Кузьміча. 17.05 „Смутак на двух". Відэафільм. 18.05 „Запрашаем на вячоркі". „Вяселле ў маладой". Выступаюць фальклорныя калектывы Навагрудскага раёна. 19.00 Панарама. 19.35 Пад купалам Сусвету. 19.40 Калыханка. 20.00 „Войскі асобага прызначэння". Тэлефільм. 2-я серыя. 20.35 „Іншая жанчына". Маст. фільм (ЗША). 21.55 Рэклама. 22.10 Відзьманявідзьма. Навіны кіна-відэя-аўдыё.

## ВОЛЬНЫ РЫНАК

У гэтым годзе сяляне чарговы раз перажываюць "кашмар" знакамітага ўраджаю. Не было ім дзе прадаць вішні, парэчкі, цяпер -- бульбу, пшаніцу і жыта. На другі год праўдападобна не будзе дзе прадаць мяса, а ўсе будуць шукаць, менавіта, бульбы, жыта і пшаніцы.

У Саколцы на пачатку кастрычніка можна было купіць пшаніцу па 200 тыс. зл. за цэнтнер, у Бельску -- па 210, а ў Сямяцічах -- 220 тыс. зл. За цэнтнер бульбы ў Саколцы плацілі 60 тыс. зл., у Сямяцічах і Бельску -- 70 тыс. зл., а ў Сухаволі -- нават 40 тыс. зл. У гэтым самым часе цэнтнер пшаніцы ў Шчэцінскім ваяводстве каштаваў 350 тыс. зл., у Кросненскім і Валбжыхскім -- 300 тыс. зл. Бульбу ў Тарноўскім, Валбжыхскім, Шчэцінскім і Апольскім ваяводствах можна было купіць па 150 тыс. зл. за цэнтнер.

І няхай хтосьці скажа, што няма Польшчы "А" і "Б".

**ГАНДЛЯР**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**АМЛЕТ З ГРЫБАМІ**

Прадукты:
*25 дэкаў пячурыц ці іншых свежых грыбоў,*
*5 дэкаў тлушчу,*
*3 яйкі,*
*4 лыжкі мукі,*
*4 лыжкі содавай вады (сітра),*
*зеляніна пятрушкі,*
*соль.*

Грыбы ачысціць, памыць, пасячы, стушыць на масле з пасечанай зелянінай пятрушкі і соллю. З бялкоў збіць моцную пену, а з жаўткоў, мукі і вады падрыхтаваць цеста гушчынёю смятаны. Усе прадукты перамяшаць і смажыць на патэльні, як звычайны амлет. Падзяліць на порцыі і падаваць, гарачы, з салатай з гародніны.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Маёй сяброўцы прыснілася, што яе пакусаў сабака. І так страшэнна кідаўся на яе і кусаў, што яна ад страху прачнулася.

**Мірка**

Што можа абазначаць, калі сніцца, што мыеш талеркі? Я вельмі здзіўлена, бо мне ніколі такое не снілася. Можа гэта штосьці нядобрае?

**Эля**

Мне, Астроне, прысніўся сон, быццам я знаходзілася на нейкім млыне. У другім пакоі былі мае сябры. Раптам бачу, што ў тым пакоі, дзе я была, пачынае тліцца падлога. Я іду да сяброў і кажу, што гарыць. Трэба ўцякаць. Мы пачынаем збірацца. Бярэм з сабою неабходныя рэчы. Выходзім на двор.

На двары бачу, што стаяць розныя звяры, якія развітваюцца, бо таксама будуць уцякаць ад пажару. Яны вельмі мілыя. Слон стаіць, прытулены да мядзведзя, іншыя звяры таксама сімпатычныя.

Дзіўны сон, праўда?!

**Аня**

Мірка! Тваю сяброўку „пакусаюць" яе ворагі. Злосны сабака, які скакаў на чалавека, не прадвяшчае нічога добрага.

Эля! Спадзявайся гасцей! Мыць талеркі — частыя госці.

Аня! Твой сон сапраўды даволі дзіўны. То, што ты была на млыне, абазначала б для цябе нейкі прыбытак, але ж той пажар... Пажар — гэта нейкая хвароба, хутчэй за ўсё прастуда. Каб з той ахвоты зарабіць ты хаця не расхварэлася... Што датычыць тых звяроў, дык яны таксама абазначаюць нейкую небяспеку, але яны ж у тваім сне былі вельмі мілыя, дык і скончыцца усё добра.

**АСТРОН**

## КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. кінематаграфія, 8. упарадкаваная сукупнасць, рад, 9. перажытак, 10. куча сена, 11. шкілет галавы, 13. жыхары Ерэвана, 15. прыёмны пакой, 16. прыгажосць, 20. раздзел фізікі, які вывучае гукавыя з'явы, 22. трыумф, 23. абрад памінання, 27. развіццё, 29. напр. скульптар, 30. дэкаратыўны куст, 31. сорт цвёрдых цукерак, 32. агітацыйны малюнак, 33. хлус, 34. першы чалавек.

**Вертыкальна:** 1. выдатны твор мастацтва, 2. раптоўнае зніжэнне сардэчнай дзейнасці, 4. вывучае рыбы, 5. частка арганізма, якая выконвае пэўную функцыю, 6. аб'яднанне людзей, звязаных паходжаннем і мовай, 7. скульптурнае ўпрыгожанне ў выглядзе лісцяў, 12. уступ да кнігі, 14. інструментальны твор на тэмы народных песень і танцаў, 16. міжземнаморская выспа, 17. сталіца Ганы, 18. гарбузовая расліна, 19. магічныя прыёмы, 21. ямка з вадой і граззю, 24. птушка, якая не мае свайго гнязда, 25. нецывілізаваны чалавек, 26. тонкая тканіна з рэдкім пераплётам, 27. вучэнне аб маралі, 28. горад у Японіі.

**Ш**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 37 н-ра.**

**Гарызантальна:** сілас, апрычніна, Глепм, Адамс, Ака, мундзір, кружала, аер, абцас, абруч, трапальня, аліва.

**Вертыкальна:** клічнік, скрып, спіна, апендыцыт, аранжарэя, група, сілач, ара, акр, Еўразія, скала, альфа.





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1994 r. upływa 20 listopada 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## ПРОСТА АНЕКДОТ

У трамваі сядзіць ладны дзяцюк і пільна ўглядаецца ў акно. Да яго падыходзіць знаёмы і пытаецца:

— Што гэта ты ўгледзеўся ў акно, нават галавы не павернеш?

— Ды сорамна мне за людзей: вось стаіць каля мяне старэнькая бабулька, а ёй ніхто месца не ўступае.

* * *

Лекар: — І памятайце, найбольшы ваш вораг — алкаголь.

Пацыент: — Доктар, дык не хочаце ж вы, каб я выглядаў перад ім трусам.

* * *

— Кастусь, пазыч мне карабок запалак.

— Не, больш табе не ўдасца гэты трук.

— Які трук?

— Кожны раз, калі я табе пазычаю карабок, ты яго вяртаеш без адной запалкі.

* * *

Метэаролаг дыктуе сакратаршы зводку надвор'я на нядзелю:

— Раніцай сонечна, пасля поўдня асадкі.

— Як шкада, — уздыхнула сакратарша, — у мяне днём назначана спатканне!..

— Тады, — дабрадушна гаворыць метэаролаг, — выкрасліце асадкі.

* * *

У зале суда публіка вядзе сябе вельмі шумна. Суддзя ўсклікае:

— Калі вы не змоўкнеце, я буду вымушаны ўсіх вас выдаліць! Мы і так разглядаем ужо пятую справу, не чуючы ні слова...

Падборку зрабіў

**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**






*Малюнак Л. Разладава*

## ТОСТЫ

У народзе гавораць: „Калі хочаш прыняць правільнае рашэнне, парайся з жонкай і зрабі наадварот". Я п'ю за нашых жонак, якія даюць нам магчымасць знаходзіць аптымальнае вырашэнне ў складанай сітуацыі!

* * *

Чыста англійскі тост: „Даўвай уып'ем"!

* * *

Наш тост: „Ну, паехалі!"

## ЖЫЦЦЁВЫЯ ВЫСНОВЫ

Дзе ўсё ірвецца, а нанова не кладзецца, там згоды не будзе.

* * *

Калі няма каму паскардзіцца, застаецца спадзявацца адно на Божую міласць.

* * *

Ад дочак чакай дапамогі і вялікага хвалявання за іх лёс, а ад сыноў — ляноты і хваляванняў за іх няўдалую жаніцьбу.

**АЎРОРА**




Даражэнькае Сэрцайка! Сорамна мне пісаць пра тое, аб чым вырашыла я падзяліцца з табою, але раблю гэта толькі таму, што ты мяне не ведаеш і, калі б я мусіла сядзець насупраць цябе і глядзець табе ў вочы, дык напэўна гэтага не расказала б. Аб маёй таямніцы ведаем толькі мы з мужам і дайшло ўжо да таго, што далей я так жыць не магу. Можа ты мне параіш нешта сэнсоўнае.

Свайго будучага мужа я ўпершыню ўбачыла на вяселлі ў сяброўкі. Было гэта роўна сем гадоў таму назад. Вельмі ён мне тады спадабаўся. Быў надта мілы і далікатны. Мы пачалі „хадзіць". І, трэба сказаць, хадзілі ўсюды: на шпацыры, у кіно, да сяброўак і сяброў, на забавы.

І я, і ён ужо працавалі, дык хаця было нам усяго па 22 гады, мы сярод равеснікаў, якія яшчэ канчалі розныя вышэйшыя школы, лічыліся ўжо дарослымі, бо заараблялі ўласныя грошы.

Недзе праз месяц пасля нашага знаёмства мой хлопец запрапанаваў мне пайсці да яго сябра. Я, як заўсёды, ахвоча згадзілася. Я меркавала, што там будзе шмат моладзі і можна будзе забавіцца, але на маё здзіўленне нікога, апрача гэтага сябра, у яго хаце не было. На стале стаяла віно, у кубачкі ўжо была насыпана кава, а на кухні шыпеў чайнік. Мы выпілі па кілішку віна, гаспадар заварыў каву, а пасля неяк хуценька перапрасіў нас, накінуў куртку і растлумачыў мне, што мусіць на хвіліну выйсці ў нейкай пільнай справе.

Нешта мяне цюкнула. І сапраўды, мой хлопец наважыўся ў гэты дзень пазбавіць мяне дзявоцтва. Усё рабіў вельмі асцярожна — цалаваў мяне ў губы, у шыю, хацеў расшпіліць мне ліфчык, падняць спадніčку, але я ўжо ведала, да чаго ўсё гэта вядзе. І гэта мяне вельмі насцярожыла.

Не скажу, хлопец мне вельмі падабаўся, але я добра памятала, што наказвала мне мама. Глядзі, дзіця, паўтарала яна заўсёды, аддасіся хлопцу заўчасна, дык ніколі шанаваць цябе не будзе, дакараць стане, што „нячыстую" ўзяў за жонку (у тым выпадку, калі захоча з табой ажаніцца, бо мо надумаецца „чыстую" пашукаць).

— Толькі пасля шлюбу, — сказала я хлопцу станоўча і пачала збірацца дахаты. Ён быў вельмі разгублены, усумніўся, ці я сапраўды кахаю яго, а я адказала, што так.

Неўзабаве мы пажаніліся. Вяселле было надта гучнае. Усім вельмі спадабалася. Падарункі былі цудоўныя.

Ды толькі Бог, відаць, пакараў мяне. Як толькі мой муж хацеў выканаць свой абавязак (ужо мужа, не хлопца) і дакрануўся да мяне, я вішчэла немым голасам з болю і ён пры сваёй далікатнасці нічога не мог зрабіць.

І так сітуацыя выглядае да сёння. Я данесла сваё дзявоцтва не толькі да шлюбу, але не пазбылася яго яшчэ, хаця ўжо столькі часу замужняя. Нашыя палавыя зносіны адбываюцца „больш-менш", паверсе, нічога з іх не вынікае.

Муж мой, які да нядаўна яшчэ меў сатысфакцыю з такіх зносін, пачынае празмерна выпіваць. Ён бы хацеў мець сына, а як?! І таму прашу цябе сардэчна: парай, што мне цяпер рабіць?! Баюся, каб муж мяне не кінуў.

**Сяброўка**

Дарагая Сяброўка! Няўжо ты аж так не вытрымліваеш болю? Гэты ж акт перажывае калісьці кожная дзяўчына і астаецца ў жывых... А мо яго „варштат" (як цяпер модна называць) занадта кволы? У кожным разе, ці так ці сяк, імчыся да лекара. Ужо не пара забаўляцца ў такія гісторыі, пра якія ты пішаш, ды і блізкім, пэўна, абрыдла вам адказваць, калі будзеце ўжо нарэшце мець дзіця.

**СЭРЦАЙКА**

v

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(Працяг. Пачатак у н-рах 40-43)*

### ВОДНЫЯ ІСТОТЫ

Калі раней мы разглядалі могілкавых зданяў і пачвараў з іх досыць спецыфічным арэалам існавання, то, як мог заўважыць дасведчаны чытач, Беларусь — гэта не толькі цвінтары, капцы, калумбарыі і іншыя месцы пахавання нябожчыкаў. Значную тэрыторыю нашае Бацькаўшчыны займае водная прастора. І калі для паспалітага люду, як пісаў той, гэта — проста месца адпачынку і зняцця нервовых стрэсаў, то для пачваразнаўцаў вада перш за ўсё — асяродак існавання злыдухаў. У 60—70-я гады водныя істоты, праўда, моцна пацярпелі ад самых страшных ворагаў беларускага і паляшуцкага народаў — меліяратараў, якія пад выглядам пашырэння пасеваў і пашаў праводзілі сапраўдны генацыд нячысцікаў — пазбаўленыя шчырае веры, прарасейскія марыянетачныя ўлады рукамі сваіх янычараў-меліяратараў змагаліся не толькі з Богам, але і з чортам. Да таго ж дадалося сістэматычнае забруджванне рэк і азёраў выкідамі вытворчасці. Але цяпер, у сувязі з падзеннем прамысловасці экалагічнае становішча значна палепшылася, і пачвары-эмігранты вяртаюцца на сваю гістарычную радзіму. А таму знаёмім вас з найбольш распаўсюджанымі істотамі гэтага класа.

#### Тапелец

Самая, бадай, распаўсюджаная пачвара на тэрыторыі Беларусі. Кожны вадаём мае свайго тапельца, але паколькі той з'яўляецца зрэдку і толькі па начах, звестак пра яго няшмат. Нават наконт яго паходжання не існуе агульнапрынятай версіі. Напрыклад, расейскія навукоўцы беспадстаўна мяркуюць, што тапелец — бесцялесная істота, душа якога п'яніцы, які патануўшы ў стане алкагольнага атручэння, так і не зразумеў, што сышоў з жыцця, а таму і дагэтуль блукае ў пошуках дармавое шклянкі. Вядомыя сваёй артадаксальнасцю нашыя заходнія суседзі тлумачаць існаванне тапельца такім жа антынавуковым чынам: нібыта Бог, стварыўшы свет, пашнураваў усіх анёлаў і загадаў ім кланяцца. Тых жа, хто адмовіўся, ён скінуў з неба. Анёлы, якія трапілі ў ваду, зрабіліся тапельцамі. На нашу думку, ні тыя, ні другія не маюць рацыі: з аднаго боку, па разважнасці паводзінаў тапельцаў цяжка сказаць, каб яны былі ў перманентна п'яным стане, а з другога боку — усе, нават зацятыя атэісты ведаюць, што ў анёлаў ёсць крылы, а тапельцы, як сцвярджаюць сведкі, іх не маюць. Апроч таго, анёлы — істоты бясполыя, тапелец жа абавязкова мужчына. Што ж тычыцца айчыннае версіі этнагенезу тапельцаў, нам падаецца мэтазгодным меркаванне сектара паранармальных з'яваў і замагільнага свету Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, паводле якога тапельцы — рэшткі ўшчэнт здзічэлага яцвяжскага народу.

Пры ўсёй сваёй жорсткасці тапельцы — істоты надзіва справядлівыя. У гэтым можна пераканацца з наступнай гісторыі, дакументальна засведчанай у газеце „Вечаровы Гомель" ад 31.06.1978 г.

З пачатку купальнага сезона на рацэ Сож паспела патануць 66 чалавек. Дзіўная акалічнасць: ніводзін труп не быў знойдзены. Сваякі ахвяраў на вадзе, як і мае быць, пачалі звяртацца да аквалангістаў-ратаўнікоў прыватным чынам, каб тыя за пэўную суму знайшлі патанулых. Неўзабаве трупы былі знойдзены і перададзены для пахавання, а грошы родных нябожчыкаў перайшлі да аквалангістаў. На шматлікія запыты гарадской пракуратуры ратаўнікі сцвярджалі, што такую вялікую колькасць ахвяраў можна вытлумачыць толькі наяўнасцю звышнатуральнай істоты-забойцы — відавочна тапельца. На змаганне з пачварай былі выкліканы вайсковыя катэры Пінскай флатыліі, але траленне фарватэру і глыбінныя выбухі былі безвыніковыя. І, нарэшце, калі агульная колькасць ахвяраў сягнула за сотню і гомельскія гарадскія ўлады афіцыйна прызналі сваю бездапаможнасць перад пачварай, здарылася наступнае. Аднае раніцы на ратаўнічае станцыі ніхто не адказваў на тэлефоны, і неўзабаве туды быў накіраваны міліцэйскі патруль. Перад іх вачыма адкрылася незабыўнае відовішча: увесь атрад аквалангістаў-ратавальнікаў быў звязаны па руках і нагах якарным ланцугом у памяшканні кампрэсарнай, вопраткі на іх не было, а ў дупу кожнага быў заткнуты шланг акваланга — целы небаракаў-падводнікаў параздзімала сціснутым паветрам так, што яны займалі палову памяшкання. Пасля працяглых пошукаў уражаныя міліцыянты адшукалі адзінага ацалелага сведку трагедыі — ён паспеў схавацца пад перакуленай лодкай. Ён і расказаў на допыце, што на самое справе людзей тапілі самі ратаўнікі з брыдкімі карыслівымі мэтамі — вымагаць грошы са сваякоў, а целы ў чаканні выкупу хавалі пад карчамі. Але ліхадзеі моцна памыліліся, усклаўшы адказнасць за свае злачынствы на невіноўнага тапельца. Калі водная пачвара выпадкова прачытала занатоўку з паклёпам на яго ў „Вечаровым Гомелі", то трохі раззлавалася і вырашыла звыклымі ёй сродкамі аднавіць справядлівасць: тапелец з'явіўся ўначы на ратаўнічую станцыю і ўчыніў самасуд.

Гэты маленькі эпізод дазваляе, аднак, зрабіць выснову: людзі, прызначаныя ратаваць нашыя жыцці, часам бываюць значна страшнейшымі за тых, ад каго яны мусяць ратаваць.

Пры ўсёй сваёй жорсткасці і хцівасці тапельцы не выносяць няшчырасці, ілюстрацыяй чаму — гісторыя, якая адбылася ў чэрвені гэтага года. Старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па барацьбе з цемрашальствам, народны дэпутат Шч., выкарыстоўваючы сваё службовае становішча, распачаў будаўніцтва катэджа на беразе возера Нарач у водаахоўнае зоне. Але пад самы канец будаўніцтва грунт нечакана пачаў прасядаць. Ніхто з будаўнікоў не мог даць рады, праца, у якую гаспадар уклаў хаця і дзяржаўныя, але вялікія грошы, была дарэмнай, але нехта з членаў камісіі параіў звязацца з сапраўдным гаспадаром узбярэжжа — нарачанскім тапельцам. Шч. так і зрабіў. Тапелец запэўніў, што ўратуе будоўлю, але наўзамен запатрабаваў з дэпутата прынесці яму ў ахвяру пяць жыццяў. Дэпутат, які прызвычаіўся легкадумна абяцаць што заўгодна, з радасцю пагадзіўся, і калі надышоў час расплаты, утапіў у нарачанскіх водах пяць мясцовых катоў, якіх адкупіў за пляшку ў мясцовага гіцаля. Тапелец справядліва пакрыўдзіўся, і на наваселлі закінуў праз фортку ў акно моцна збуцвелыя тушкі жывёлаў і крыкнуў: „Мы яшчэ парахуемся!.." Дэпутат Шч. пакінуў гэтую перасцярогу без увагі, аде дарма: літаральна праз месяц падчас вяселля ягонага сына галаўны „мерсэдэс" шлюбнага поезду, у якім былі маладыя, сам дэпутат, ягоная жонка і асабісты шафёр, страціў кіраванне і на вачах у пераляканае аховы зваліўся з грэблі ў возера. Машыну з расчыненымі дзвярыма паднялі толькі праз суткі, але целы ўтопленых шукаюць і дагэтуль.

Відаць, быць непрызнанымі чалавецкімі законамі часам значна карысней, чым знаходзіцца пад іх аховаю: падобнае становішча дазваляе бяскарна зводзіць рахункі з падманшчыкамі, нават калі яны з'яўляюцца народнымі дэпутатамі.

*(Працяг будзе)*

Падрыхтавалі

**ФРАНЦІШАК ХЛУС**

**І МАРЦІН ЮР**